ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (143)
люты 2023 год
CATHOLICNEWS.BY




## СДМ-2023: заяўкі на ўдзел падало больш за 600 тысяч чалавек

Больш за 600 тысяч чалавек ужо падало заяўкі на ўдзел у Сусветных днях моладзі, якія пройдуць 1-6 жніўня 2023 года ў Лісабоне, – паведаміў аргкамітэт каталіцкага моладзевага форуму.

У партугальскую сталіцу можа прыехаць да 1,5 мільёна чалавек, – заўважае інфармацыйнае агенцтва KAI са спасылкай на выданне Visão. Адзначаецца таксама, што з набліжэннем сусветнай сустрэчы сістэматычна павялічваецца колькасць валанцёраў.

Па словах дапаможнага біскупа Лісабонскай архідыяцэзіі Амерыку Мануэла Алвэша Агіара, ужо больш за дзесяць тысяч маладых католікаў выказалі жаданне бескарысліва дапамагчы ў арганізацыі і правядзенні мерапрыемства.

Паводле звестак аргкамітэта, чакаецца, што моладзь прыбудзе са 183 краін свету. Галоўныя набажэнствы СДМ, у якіх плануецца ўдзел Папы Францішка, адбудуцца паміж Лісабонам і Ларышам каля ракі Таха. Ужо некалькі месяцаў там вядуцца падрыхтоўчыя работы.

***Аляксандр Панчанка** ,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

## Гутарка з арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам пра ролю свецкіх у Касцёле


Стар. 3

## Дрэс-код у касцёле. Як апранацца ў святыню?


Стар. 7




## Як свецкія з “Радыё Марыя” супрацоўнічаюць са святарамі

*Чытайце на стар 14*



## “Сусвет ёсць, але мяне ў ім няма”. Псіхолаг пра рэаліі дэпрэсіі

*Чытайце на стар 6*



## Палікарп Смірнскі

*Чытайце на стар 10*


Стар. 4

## Целая семья, включая нерождённого ребёнка, будет причислена к лику блаженных


Стар. 12

## Фільм “Харысты” – гісторыя перамянення сэрцаў

Касцёл Святога Духа ў Батумі пабудовы канца 1990-х гадоў.


Стар. 8

## Моладзі ўсё менш, Праваслаўная Царква не аддае каталіцкія святыні: як жыве Касцёл у Грузіі

# Папа Францішак выказаў падтрымку народам Турцыі і Сірыі

**Пантыфік выказаў спачуванні ў сувязі з трагедыяй у Турцыі і Сірыі, дзе магутны землятрус прывёў да гібелі дзясяткаў тысяч чалавек і да значнага ўрону для культурнай спадчыны.**

У тэлеграме за подпісам Дзяржсакратара Яго Святасці кардынала П'етра Параліна, адрасаванай Апостальскаму нунцыю ў Турцыі арцыбіскупу Марэку Сальчынскаму, гаворыцца, што Папа глыбока смуткуе з-за гібелі вялікай колькасці людзей. Святы Айцец запэўніў у блізкасці ўсіх пацярпелых і даверыў загінулых міласэрнасці Усявышняга, спачуваючы тым, хто аплаквае гібель сваіх блізкіх. Францішак пажадаў выратавальнікам "боскіх дароў моцы духа і трываласці ў клопаце пра параненых і ратавальных працах".

Папа Францішак выказаў падобныя пачуцці і ў пасланні да Апостальскага нунцыя ў Сірыі кардынала Марыа Дзенары. У тэлеграме, таксама падпісанай кардыналам Паралінам, гаворыцца, што Папа "ўзносіць шчырыя малітвы за душы памерлых і за ўсіх, хто іх аплаквае, давяраючы загінулых ад гэтай катастрофы Провіду Усемагутнага Бога". Пантыфік запэўніў у малітве за тых, хто падтрымлівае насельніцтва ў гэтай надзвычайнай сітуацыі, молячыся аб Божым блаславленні, сілы і міру для ўсяго сірыйскага народа, які пакутуе ўжо на працягу доўгага часу.

Канферэнцыя Біскупаў Італіі вырашыла накіраваць у якасці першапачатковага ўкладу ў дапамогу гэтым двум народам 500 тысяч еўра, узятых са сродкаў, якія жыхары Італіі добраахвотна ахвяравалі на карысць Каталіцкага Касцёла.



# Святы Айцец: "Я свядома наведваю малыя краіны Еўропы"

**Пра жаданне даследаваць "схаваную Еўропу" ў яе самых малых краінах, а таксама пра магчымасць неўзабаве наведаць Манголію і Індыю Папа Францішак згадаў падчас прэс-канферэнцыі на борце самалёта.**

Вяртаючыся з Апостальскага візіту ў Дэмакратычную Рэспубліку Конга і Паўднёвы Судан, Пантыфік адказаў на пытанні журналістаў пра магчымыя наступныя пілігрымкі. Ён пацвердзіў намер адправіцца ў верасні ў Марсэль, у Францыю, падкрэсліваючы, што будзе наведваць не краіну, а толькі гэты горад, як падчас візіту ў Страсбург.

Папа згадаў пра запланаваную на жнівень паездку ў Лісабон з нагоды Сусветных дзён моладзі, а таксама адзначыў, што, магчыма, ў 2023 годзе наведае Індыю. Пасля падарожжа ў Марсэль можа адбыцца пілігрымка ў Манголію, хоць канчатковае рашэнне па гэтай краіне яшчэ не прынята.

Каментуючы выбар накірункаў сваіх падарожжаў, Папа Францішак растлумачыў, што прыняў крытэрый "наведвання найменшых краін Еўропы (...), каб спазнаць "схаваную Еўропу", якая мае вялікую культуру, але застаецца невядомай". Іншы крытэрый – "суправаджаць краіны", напрыклад, такія, як Албанія, каторая пацярпела ад адной з самых жорсткіх дыктатур. Пантыфік падкрэсліў, што яго выбар служыць таму, каб "не ўпасці ў глабалізацыю абыякавасці".



*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*




# Святы Айцец ператварае папскую рэзідэнцыю ў экалагічны цэнтр

**Пантыфік даручыў стварыць на базе папскай летняй рэзідэнцыі ў Кастэль Гандольфа Цэнтр экалагічнай адукацыі і сельскай гаспадаркі.**

Пра гэта паведамляецца ў прэсрэлізе Губернатарата Дзяржавы Ватыкан, апублікаваным 2 лютага. На сайце былі апублікаваныя два папскія дакументы, якімі Пантыфік стварае навучальны цэнтр і запускае праект пад назвай Мястэчка Laudato si' (Borgo Laudato si'), вызначаючы адказных.

Мерапрыемствы, якія будуць рэалізаваныя ў найбліжэйшыя месяцы, накіраваныя на спалучэнне адукацыі ў галіне інтэгральнай экалогіі, цыркулярнай і генератыўнай эканомікі і экалагічнай устойлівасці. Мэта ініцыятывы – прапанаваць канкрэтнае прымяненне прынцыпаў, адлюстраваных у энцыкліцы Францішка з 2015 года.

Ватыканскія ўлады абвясцілі, што рэканструкцыя садоў і будынкаў ля возера Альбана будзе праходзіць у найбліжэйшыя месяцы.

Комплекс плошчай 55 гектараў з пачатку XVII стагоддзя служыў летняй рэзідэнцыяй Пантыфікам. Акрамя двух палацава-паркавых зон, у яго ўваходзяць сельскагаспадарчыя ўгоддзі і гаспадарчыя пабудовы.

Апошнім Папам, які праводзіў у Кастэль Гандольфа летнія дні, быў Бэнэдыкт XVI. У 2016 годзе Папа Францішак даручыў перарабіць комплекс у музей.

# Папа Францішак пра рысы сучаснага душпастыра

**Шукаць братэрства ў грамадскай сферы, вучыцца і вучыць вітаць усіх, працаваць з усімі, шукаць кансэнсусныя рашэнні заклікаў Папа святароў Барселонскай архідыяцэзіі, задзейнічаных у душпастырстве моладзі.**

Падчас аўдыенцыі 28 студзеня Папа Францішак звярнуў увагу на падвойны аспект досведу апосталаў – асабісты і супольны. "Наша пакліканне індывідуальнае, але заўсёды для таго, каб быць часткай вялікай групы, ісці разам, слухаць, перш чым гаварыць, каб ведаць сваё месца, нават калі яно пасярэдзіне ці ззаду, а не толькі наперадзе", – адзначыў ён.

Пантыфік заклікаў святароў "адмовіцца ад кар'ерызму, падвойнага жыцця, пошуку мірскіх задавальненняў, прыняць крыж і пасярэдніцтва Касцёла: праз сакраманты, малітоўнае жыццё, аскетызм", "быць здольнымі да міласэрнасці".

"Мы павінны шукаць братэрства ў любым грамадскім кантэксце, вучыцца і вучыць вітаць усіх, працаваць з усімі, шукаць кансэнсусныя рашэнні, якія маюць шырокі спектр. Мы ніколі не павінны прымаць абарончай пазіцыі ні ў хрысціянскай групе, да якой мы належым, ні ва ўскладзенай на нас адказнасці, але жыць са свабодным духам, у здаровым неангажаванні", – звярнуўся да іспанскіх душпастыраў Святы Айцец.



# Гутарка з арцыбіскупам Кандрусевічам пра ролю свецкіх у Касцёле



**– Ваша Эксцэленцыя! Чаму Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі вырашыла прысвяціць менавіта 2023 год апостальству свецкіх? Як нараджалася гэта ідэя сярод біскупаў? Ці былі іншыя прапановы?**

– Каталіцкі Касцёл у Беларусі ў меру сваіх абмежаваных магчымасцяў тым не менш стараецца жыць ідэямі сусветнага Касцёла. Пасля таго, як Папа Францішак аб'явіў, што наступны Сінод біскупаў будзе прысвечаны свецкім, каталіцкія біскупы Беларусі неадкладна адрэагавалі на гэтае рашэнне Пантыфіка.

Падчас абмеркавання тэмы 2022 пастырскага года Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі (ККББ) разважала над тым, каб прысвяціць яго свецкім. Аднак пасля грунтоўных абмеркаванняў у якасці працягу тэмы 2021 пастырскага года – "Касцёл як сакрамант паўсюднага збаўлення" – было прынята рашэнне прысвяціць 2022 пастырскі год тэме "Праз адзінства, удзел і місію да Касцёла-супольнасці" і такім чынам лепей падрыхтавацца да году свецкіх.

Прапанова прысвяціць 2023 пастырскі год свецкім з Мотта – "Апостальства свецкіх – знак надзеі для Касцёла ў Беларусі" – усімі біскупамі была падтрымана аднагалосна. Гэтае рашэнне з'яўляецца знакам эвалюцыі ў ацэнцы ролі свецкіх і неабходнасці іх большага ўдзелу ў жыцці Касцёла ў нашай краіне.

**– Якія падзеі, акцыі запланаваныя біскупамі з гэтай нагоды на бягучы год?**

– Пакуль што няма канкрэтных планаў. У сваім "Слове" на гэты пастырскі год я прадставіў некаторыя прапановы. Спадзяюся, што ККББ на чарговым пасяджэнні вырашыць гэтую праблему. Хацелася б, каб гэты пастырскі год быў адзначаны канкрэтнымі мерапрыемствамі, якія дазволяць лепей асэнсаваць ролю свецкіх у Касцёле.

**– Ці плануецца на ўзроўні ККББ змена нейкіх падыходаў адносна супрацы са свецкімі? Што Канферэнцыя плануе рабіць у гэтым годзе ў плане апостальства свецкіх?**

– Сам факт склікання Папам Францішкам спецыяльнага Сіноду нагадвае пра тое, што прыйшоў час змены падыходаў да супрацы са свецкімі, асабліва ў галіне пастырства і гаспадарча-адміністратыўнай дзейнасці касцельных структур. Упэўнены, што змены ўжо саспелі, і іх трэба як мага хутчэй прымаць і ўводзіць у жыццё. Вада, калі яна стаіць, загнівае, а Касцёл – гэта сакрамант паўсюднага збаўлення, і яго сэрца павінна працаваць рытмічна, уключаючы ў сваю дзейнасць не толькі духоўных, але і свецкіх, якія складаюць большасць Касцёла. Канкрэтныя рашэнні застаюцца за ККББ.

**– Ці можна чакаць нейкай каардынацыі дзеянняў мясцовых біскупаў у ККББ у плане апостальства свецкіх у гэтым годзе?**

– Думаю, што так. Калі мы хочам, каб гэты пастырскі год прынёс свае плёны. Нельга эфектыўна дзейнічаць без каардынацыі высілкаў, бо гэта можа прывесці да непатрэбных непаразуменняў і негатыўных наступстваў. Напрыклад, калі ў той самы час у розных месцах праводзяцца мерапрыемствы на тую ж самую тэму, што, на жаль, часам адбываецца. Беларускі Касцёл не вялікі, і такая практыка толькі шкодзіць.

**– Мінулы, 2022 г., у Беларусі таксама фактычна быў прысвечаны Касцёлу-супольнасці. У пастырскім лісце, між іншым, Вы заахвочвалі да актыўнага ўдзелу вернікаў. Чаго ўдалося дасягнуць летась? Ці ёсць ініцыятывы Касцёла, якія Вы лічыце ўдалымі ў гэтым плане?**

– Мінулы год быў часам, які мы перажывалі пасля пандэміі каранавіруса. Неабходна было адрадзіць розныя душпастырскія акцыі, як, напрыклад, Будслаўскі, Тракельскі, Браслаўскі, Гудагайскі, Лагішынскі фэсты, катэхізацыю, святарскія, манаскія і моладзевыя спатканні, сустрэчы малітоўных груп і да т.п. Гэтага нельга было б ажыццявіць без актыўнага ўдзелу свецкіх, якім мы ад усяго сэрца дзякуем! Кажучы агульна, названыя акцыі ўдаліся. Мы ўбачылі ў нашых вернікаў голад Бога і добра арганізаваных набажэнстваў, каторыя стараліся наталіць сумесна са свецкімі.

**– Якім чынам Вы ў часы свайго кіравання ўключалі свецкіх у працу Касцёла? Ці існавалі ў Вас нейкія правілы ў гэтым плане?**

– У мяне быў даволі багаты досвед душпастырскай працы ў Расіі, дзе святароў і кансэкраваных асобаў вельмі мала, а адлегласці – велізарныя. Там я шмат адміністрацыйнай і пастырскай працы даручаў падрыхтаваным свецкім. Вельмі часта яны кіравалі парафіямі і дабрачыннымі структурамі.

У Беларусі сітуацыя іншая. Колькасць духоўных асобаў, хаця і недастатковая, тым не менш не ідзе ні ў якое параўнанне з сітуацыяй у Расіі. Акрамя таго, з даўніх часоў у нас укаранілася меркаванне, што пробашч нясе поўную адказнасць за пастырскую дзейнасць. Таксама не дастаткова звярталася ўвагі на належную фармацыю свецкіх.

Тым не менш, я звяртаў увагу святароў на неабходнасць больш актыўнага ўдзелу свецкіх у катэхізацыі і іх належнай фармацыі. Для гэтага ў Мінску быў заснаваны тэалагічны каледж. Звяртаў увагу святароў і на тое, каб больш прыцягвалі свецкіх для вырашэння гаспадарча-адміністрацыйных праблем.

**– Скажыце, чаму ў Касцёле ў Беларусі не атрымалася развіць інстытут парафіяльных радаў? Сінадальная справаздача дыяцэзіяльнага этапу Сіноду Біскупаў прыводзіць іх як прыклад "намінальных" і "непрыкметных" структур. Ці спрабавалі Вы неяк вырашаць гэту праблему, калі кіравалі архідыяцэзіяй?**

– Як ужо казаў вышэй, на жаль, у нас усё яшчэ моцна валадарыць думка пра абсалютную адказнасць пробашча за ўсе парафіяльныя справы. У выніку атрымалася тое, што маем. Менавіта "намінальныя" і "непрыкметныя" структуры.

Выправіць сітуацыю няпроста, бо вельмі часта свецкія вернікі не маюць жадання займацца парафіяльнымі справамі і ўсё звальваюць на святара. Аднак у той жа час ёсць і супрацьлеглыя прыклады, калі яны ва ўсім хочуць замяніць святара. Тут ёсць небяспека з двух бакоў: клерыкалізацыя свецкіх і лаіцызацыя святароў, што непрымальна. Кожны пакліканы да сваёй місіі і павінен яе выконваць. Спадзяюся, што Сінод дапаможа ў нармалізацыі гэтай важнай справы.

Падчас кіравання Мінска-Магілёўскай архідыцэзіяй я заахвочваў пробашчаў да большай супрацы з парафіяльнымі радамі. Правілам было спатканне з парафіяльнай радай падчас пастырскіх візітацый. Таксама заўсёды я прымаў рады ці іх прадстаўнікоў, калі яны пра гэта прасілі, у Курыі ці ў парафіі. Такія спатканні былі патрэбныя, бо нярэдка ўдавалася вырашыць праблемы будаўніцтва і рамонту касцельнай маёмасці, а таксама некаторыя пастырскія пытанні.

**– Якія сістэмныя праблемы Вам бачацца ключавымі для паляпшэння адносінаў "святар-вернікі" на парафіяльным узроўні? "Святары не да канца адважныя і адкрытыя, каб дазволіць свецкім вернікам супрацоўнічаць з імі", - пішацца ў справаздачы.**

– Мне падаецца, што галоўнай праблемай ёсць недастатковая фармацыя як святароў, так і свецкіх адносна супольнай адказнасці за Касцёл і парафію. Прыйшоў час на пастырскае навяртанне, як кажа Папа Францішак. Святары павінны быць больш адкрытымі на супрацоўніцтва са свецкімі. Яны не забяруць святарскай улады, але могуць дапамагчы. Таксама свецкія вернікі павінны адзначацца разуменнем сваіх пастыраў, каб супольна стварыць новае.

**– У справаздачы яшчэ ёсць такая думка: "Выразна адчуваецца адсутнасць усведамлення таго, што ўсе разам – святары, кансэкраваныя асобы і свецкія вернікі – утвараюць супольнасць аднаго Касцёла". Як Вы лічыце, чаму?**

– Мне падаецца, што, як ужо ўспамінаў вышэй, адсутнасць належнай фармацыі з абодвух бакоў. Але таксама і традыцыйнае меркаванне, што Касцёл – гэта Папа, біскупы, святары і кансэкраваныя асобы. На самай справе, духоўныя асобы – гэта духоўныя кіраўнікі, якія патрэбныя і без якіх Касцёл не зможа ў поўнай меры рэалізаваць сябе. Але Касцёл як Містычнае Цела Езуса складаецца з усіх ахрышчаных, і яны ўсе адказныя за яго. Менавіта гэтага элемента часта не хапае нам.

**– "Адносіны паміж святарамі і свецкімі павінны быць больш братэрскімі (...) Святар павінен быць пастырам, а не валадаром", – пішацца ў справаздачы. Як Вы дзейнічалі ў сітуацыях, калі заўважалі ў парафіях такі стан рэчаў? Падзяліцеся, сваім досведам, калі ласка.**

– Я стараўся весці размовы са святарамі і свецкімі вернікамі паасобку, а потым разам. Для вырашэння кожнага канфлікту неабходна выслухаць усе зацікаўленыя бакі.

**– Ці можам чакаць, што ардынарыі будуць уключаць у нейкія касцельныя арганізацыі, структуры свецкіх вернікаў па выніках гэтага пастырскага года?**

– Спадзяюся, што будуць. Гэта патрабаванне часу і выклік нашаму Касцёлу, на які неабходна адказаць своечасова, бо інакш цягнік Касцёла адыдзе, а мы застанёмся на платформе вакзала.

**– На Вашу думку, у якіх кірунках дзейнасці Касцёла ў Беларусі на дыяцэзіяльных узроўнях сёння найбольш не хапае ўдзелу вернікаў?**

– У прыняцці і ажыццяўленні пастырскіх планаў, будове і рамонце касцельнай маёмасці, дзейнасці каталіцкіх медыяў і дабрачыннасці, катэхізацыі і евангелізацыі.

**– Скажыце, мы часта чуем, што ў Беларусі не хапае святароў. Ці існавалі праекты, ідэі, каб некаторыя кіраўнічыя функцыі, напрыклад, дырэктары Caritas, кіраванне Дамамі пілігрымаў і падобныя іншыя перадаваць свецкім і тым самым вызваляць святароў для непасрэдна душпастырскіх функцый? Ці практыкавалі Вы такі падыход у часы кіравання архідыяцэзіяй?**

– Несумненна, свецкія на такіх пасадах могуць паспяхова замяніць святароў. Да сённяшняга дня дырэктарам "Карытас" у Санкт-Пецярбургу працуе свецкая жанчына і выконвае сваю працу вельмі добра. Я яе прызначыў на гэту пасаду больш за 25 гадоў таму.

У Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў свой час я прызначыў дырэктарам "Карытас" жанчыну, якая паспяхова працавала доўгі час. Дырэктарам "Радыё Марыя" таксама з'яўляецца жанчына. Выдавецтвам "Pro Christo" таксама кіруе жанчына. Галоўным рэдактарам часопісаў "Ave Maria" і "Наша вера" зноў жа з'яўляецца жанчына. Шмат свецкіх працуе ў дабрачыннасці.

**– У справаздачы пішацца, што свецкія хочуць, "каб біскуп быў у першую чаргу пастырам, а не чыноўнікам", і жадаюць мець да яго "свабодны доступ". Скажыце, чаму так лічаць вернікі? Якія практыкі маглі б выправіць гэты вынік сінадальнай кансультацыі?**

– Такое патрабаванне зразумелае і мае праве мець месца. Кожны павінен мець "свабодны доступ" да біскупа як айца дыяцэзіі. Ён не чыноўнік, але слуга і павінен служыць, а не валадарыць, быць пастырам, а не чыноўнікам. Часы клерыкалізацыі прайшлі беспаваротна. Таму біскуп заўсёды павінен быць адкрыты на дыялог з вернікамі.

**– "Свецкія вернікі, паводле часткі адказаў, не маюць магчымасці выказацца ў дыяцэзіі. Больш за гэта, іх голасу ніхто не слухае, а патрэбы ігнаруюцца", – вось яшчэ адзін з вынікаў у справаздачы. Ці абмяркоўвалася гэта на ККББ? Ці існуе воля біскупаў да зменаў у гэтым кірунку?**

– Не памятаю, каб дадзеная праблема абмяркоўвалася на пасяджэннях ККББ. Але ўпэўнены, што вынікі са справаздачы і сам Сінод стануць новым стымулам да выпраўлення гэтай ненармальнай сітуацыі.

**– Ці ёсць у Вас мара адносна ўдзелу свецкіх у жыцці Касцёла ў Беларусі? Нейкія канкрэтныя практыкі, падыходы, удзел у працы касцельных інстытутаў?**

– Св. Ян Павел II казаў, што Еўропа павінна дыхаць абодвума лёгкімі. Ён меў на ўвазе Заходняе і Усходняе хрысціянства. Мару, каб Касцёл у Беларусі сінхронна працаваў дзвюма рукамі – духоўнай і свецкай. Гэта стане магчыма, калі абодва бакі, узаемна дапаўняючы сябе, будуць адчуваць сваю адказнасць за Касцёл, за яго развіццё і будучыню. Для ажыццяўлення гэтай мэты неабходны больш значны і крэатыўны ўдзел свецкіх у касцельных структурах. Упэўнены, што Касцёл у Беларусі мае дастатковы для ажыццяўлення гэтага задання патэнцыял.

*Гутарыў* ***Арцём Ткачук***

# Целая семья, включая нерождённого ребёнка, будет причислена к лику блаженных



**Это совершенно уникальная для Церкви история: целая семья будет беатифицирована как претерпевшая мученическую смерть из-за ненависти к их вере. Это семья Ульма, включающая родителей – Йозефа и Викторию, и их детей – 7-летнюю Станиславу, 6-летнюю Барбару, 5-летнего Владислава, 4-летнего Франтишка, 2-летнего Антония, годовалую Марию, а также их седьмого ребёнка, который на день мученической смерти семьи всё ещё находился в лоне своей мамы, которая была на восьмом месяце беременности. Всего девять блаженных мучеников. Они были убиты нацистами в 1944 году. Разбираемся, почему их беатификация – событие огромной важности.**

17 декабря 2022 года Папа Франциск одобрил декрет о мученичестве семьи Ульма из Маркова (Польша). На официальном сайте Дикастерии по канонизации святых появилось следующее сообщение: "Преподобные Слуги Божьи Йозеф и Виктория Ульма и их дети (†24 марта 1944 г). Миряне, супружеская пара и их семеро детей приняли мученическую смерть из-за ненависти к их вере 24 марта 1944 года. Они также в течение полутора лет укрывали в своём доме еврейскую семью, осознавая связанный с этим риск для жизни и принимая вызванные этим финансовые трудности. Когда этот факт открылся, все они, включая ребёнка в лоне Виктории, были преданы мученической смерти".

Беатификация девяти членов семьи Ульма, которая, по всей вероятности, состоится вскоре, имеет огромное богословское и душепастырское значение, которое выходит далеко за пределы простого факта прославления мучеников из Маркова.

Общеизвестно, что условием для причисления к лику святых или мучеников является, среди прочего, добровольное и искреннее желание отдать свою жизнь за других, благочестивая жизнь в соответствии с христианскими добродетелями, которая создала репутацию святого, а также чудо, совершившееся после его смерти по молитвам о его заступничестве. Супруги Ульма заплатили за своё героическое решение принять еврейскую семью не только своими жизнями, но также жизнями своих детей, которые в силу своего возраста вряд ли могли осознавать, что происходит и в чём они участвуют. Это значит, что даже самый младший из Ульмов, а также ещё неродившийся ребёнок этой семьи, рассматриваются Церковью как мученики, умершие за веру и героически последовавшие за Христом.

**Крещённые или нет – все святые**

Беатификация маленьких детей служит нам напоминанием о том, как важно крещение. Церковь верит с непоколебимой уверенностью в спасение крещённых детей, которые умерли, не достигнув того состояния сознания и воли, которое позволяло им совершить сознательный личный грех.

Более того, случай самого младшего из этих детей, которому ещё только предстояло родиться и который будет почтён причислением к лику блаженных наравне со своими родителями и крещёнными братьями и сёстрами, представляет собой важную для Церкви предпосылку к размышлению о судьбе детей, умерших до крещения.

Самим актом этой беатификации Церковь выразит свою абсолютную и непоколебимую уверенность в священности ребёнка, что означает и уверенность в его спасении. Это очень важное событие. В случае самого младшего из Ульмов речь идёт уже не о надежде на спасение, а об уверенности, так как ребенок принял "крещение кровью", претерпев мученическую смерть вместе с матерью. Церковь также признает и применяет понятие "крещение желанием", то есть ситуацию, при которой родители хотят крестить своего ребенка, но не могут этого сделать по каким-либо причинам.

*Источник (англ.): Aleteia*
*Перевод:*
***Наталья Проскурина***
*для рускатолик.рф*

# Ученые Джорджтаунского университета составили рейтинг посещаемости храмов в 36 католических странах

**Ученые Джорджтаунского университета (США) составили рейтинг посещаемости храмов в 36 католических странах. Его возглавили Нигерия, Кения и Ливан, а среди европейских стран лидирует Польша.**

Подборку статистических данных подготовил Центр прикладных исследований апостольства (Center for Applied Research in the Apostolate, CARA) при Джорджтаунском университете и обобщил их в итоговом рейтинге ведущих католических стран мира по посещаемости католических храмов. Аналитики CARA воспользовались базой данных проекта Всемирного исследования ценностей (World Values Survey, WVS). Это крупный международный проект исследования религиозных убеждений на протяжении последних десятилетий с особым вниманием к 36 странам с крупнейшими католическими общинами. Исследователи ранжировали эти 36 католических стран по процентам католиков, посещающих храмовые службы не реже раза в неделю, без учета посещений венчаний, отпеваний и крещений.

**Лидеры**

Безусловными лидерами этого рейтинга ревностности католической веры оказались Нигерия, Кения и Ливан. В Нигерии девяносто четыре процента католиков посещают храмовые службы не реже раза в неделю. В Кении этот показатель составил 73%, а в Ливане – 69%. Такое усердие прихожан в Нигерии особенно удивительно ввиду высочайшего уровня насильственных нападений и в целом гонений на христиан по всей стране в последние годы. Католические храмы давно уже стали целями террористов в этой стране. К примеру, в июне прошлого года исламские экстремисты открыли огонь по католическим прихожанам, пришедшим на праздник Пятидесятницы в католический храм Святого Франциска Ксаверия на юго-западе Нигерии. Тогда погибло не менее 50 человек.

**Более 50%**

На четвертом месте в списке идут Филиппины, где 56% католиков ходит в храмы не реже раза в неделю. Следом за ними идут Колумбия (54%, пятое место), Польша (52%, шестое место) и Эквадор (50%, седьмое место). В остальных 29 из 36 исследованных стран воскресную мессу посещают менее половины католиков. Исследователи осознают тот факт, что самооценки посещаемости храмов дают несколько приукрашенные (завышенные) цифры, а действительные показатели посещаемости, скорее всего, заметно ниже по каждому пункту.

**Влияние материальной обеспеченности**

Оказалось также, что в наиболее богатых странах с высоким валовым внутренним продуктом (ВВП) на душу населения уровни посещаемости храмов в целом ниже, и наоборот – в бедных странах они выше. "Хотя, по-видимому, существует разрыв между самоопределением себя как "религиозного человека" и реальным еженедельным посещением мессы, существует и третий фактор, который отчасти объясняет соотношение этих показателей, – отмечают аналитики CARA. – Если внимательно присмотреться к изученным странам, то бросается в глаза их неравенство в уровнях благополучия населения – то есть явная экономическая кластеризация. Даже эта относительно небольшая выборка католических стран дает основания полагать, что католицизм наиболее силен в тех из них, которые принято относить к "развивающемуся миру", где



ВВП на душу населения явно ниже, в то время как в относительно богатых "развитых странах" приверженность к католической вере явно идет на спад. Пока трудно судить точно о механизмах, связанных с экономическим развитием и богатством, которые влияют на ревностность католиков к вере и на их самоопределение как "религиозных людей". Однако можно уже сделать вывод о том, что какова бы ни была природа этих механизмов, они оказывают большое влияние на веру".

База данных WVS не включает США, а потому аналитики CARA провели для США отдельный опрос и выяснили, что ревностных католиков, посещающих службу не реже раза в неделю, там насчитывается 17%, хотя более трех четвертей католиков США причисляют себя к "религиозным людям". За США следуют Литва (16%), Германия (14%), Канада (14%), Латвия (11%), Швейцария (11%), Бразилия (8%), Франция (8%) и Нидерланды (7%). "Логично было предположить, что чем больше религиозных католиков в стране, тем выше должна быть посещаемость храмовых служб, – пишут исследователи CARA. – Однако в действительности мы не обнаружили сильной корреляции между численностью "религиозных" католиков (по их самоопределению) и посещаемостью храмовых служб".

*Сибирская католическая газета*

# Агульнабеларускі Дзень кансэкраванага жыцця адзначылі ў Будславе з удзелам біскупаў

**У суботу, 4 лютага, у Нацыянальным санктуарыі ў Будславе ў межах Вялікай навэнны падрыхтоўкі да юбілею – 25-годдзя каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай – прайшоў агульнабеларускі Дзень кансэкраванага жыцця.**

■ Кс. Анджэй Юхневіч OMI, *catholic.by*

Такія мерапрыемствы штогод адбываюцца з нагоды ўрачыстасці Ахвяравання Пана, якая ў Каталіцкім Касцёле адзначаецца 2 лютага і з'яўляецца таксама Днём кансэкраванага жыцця – усталяваным Янам Паўлам ІІ святам усіх тых, хто без рэшты прысвяціў сябе служэнню Богу ў манаскіх або законніцкіх супольнасцях.

Дэвізам агульнабеларускай сустрэчы кансэкраваных асобаў у год юбілею – 25-годдзя з часу каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай – былі выбраныя словы, якія нагадваюць першы цуд Хрыста, здзейснены Ім па просьбе Яго Маці Марыі падчас вяселля ў Кане Галілейскай: "Зрабіце, што вам кажа Сын" (пар. Ян 2, 5).

На сустрэчу ў Будслаўскім санктуарыі сабралася каля 150-і кансэкраваных асобаў, якія нясуць служэння ва ўсіх каталіцкіх дыяцэзіях Беларусі.

Пасля прывітання ў святыні перад цудадзейным абразом Маці Божай Будслаўскай удзельнікаў і пілігрымаў прысутныя перайшлі ў канферэнцзалу, дзе айцец Павел Раманчук OFMConv правёў духоўную канферэнцыю. У ёй францішканін распавёў пра ўзор Марыі як Жанчыны, Якая вучыць слухаць і дзейнічаць згодна з Божай воляй, а таксама падзяліўся ўласным досведам служэння ў хоспісе. Акрамя таго, айцец Павел пазнаёміў удзельнікаў сустрэчы з асобаю святога Пэрэгрына Лацыёзі – італьянскага манаха з супольнасці сэрвітаў, каторы жыў на мяжы XIII і XIV стагоддзяў, і заахвоціў да малітвы праз заступніцтва гэтага святога.

Пасля канферэнцыі ў святыні адбылася святая Імша, цэлебрацыю якой узначаліў біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB – Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і адказны за пастырства Інстытутаў кансэкраванага жыцця і Таварыстваў апостальскага жыцця пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Разам з ім Эўхарыстыю канцэлебравалі кіраўнік беларускага каталіцкага епіскапату біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, Апостальскі візітатар для беларускіх грэка-католікаў архімандрыт Сяргей Гаек, марыянін, а таксама ўсе прысутныя святары.

Літургія адбывалася як у свята Ахвяравання Пана. Яна распачалася па-за святыняй з бласлаўлення свечак. Трымаючы іх у руках, прысутныя сёстры, браты-манахі, святары і біскупы ў працэсіі ўвайшлі ў касцёл.




У прамоўленай гаміліі біскуп Яшэўскі ўзгадаў пра выклікі сучаснага свету, якія стаяць перад кансэкраванымі асобамі і на якія ім неабходна даць евангельскі адказ. Разважаючы над гэтым, пастыр звярнуў увагу на прыклад цэнтральных асобаў евангельскай падзеі Ахвяравання Пана – Марыі і Юзафа, а таксама святых Сімяона і Ганны.

Пасля гаміліі манаскія асобы запалілі свечкі і ўсе разам прамовілі словы ўрачыстага аднаўлення манаскіх абяцанняў. У гэты час прысутныя вернікі і пілігрымы ў цішыні маліліся за іх.

Пасля святой Камуніі прадстаўнікі Будслаўскай парафіі шчыра павіншавалі ўсіх манаскіх асобаў з іх святам і ўручылі кожнаму па белай ружы як сімвале жыцця, ахвяравання Богу ў чыстасці, убостве і паслухмянасці.

Пасля святой Імшы адбылася супольная агапа – гасціна любові на ўзор раннехрысціянскіх сходаў. Пачастунак быў спалучаны з ажыўленымі размовамі і дзяленнем досведам манаскай штодзённасці.

Наступным пунктам сустрэчы стала малітва-разважанне перад цудадзейным абразом у будслаўскай святыні. Гэта была падрыхтаваная сястрой Марцэлінай Мігач ISSM медытацыя над фрагментам Евангелля аб першым цудзе Езуса ў Кане Галілейскай.

Малітва і разважанне над тэкстам Святога Пісання суправаджаліся спевамі пад мілагучны акампанемент аргана і скрыпкі. На заканчэнне медытацыі ўсе прысутныя кансэкраваныя асобы мелі магчымасць падысці да падрыхтаваных пустых збаноў і напоўніць іх кубкам вады. Гэтае сімвалічнае дзеянне стала выразам веры ў тое, што ўдзельнікі, слухаючы Божае слова і разважаючы над ім разам з Марыяй, напоўніліся аднаўляльнай моцай Духа Святога і пакідалі Будслаў не пустымі.

На заканчэнне сустрэчы біскуп Алег Буткевіч, чые абедзве родныя сястры з'яўляюцца законніцамі, павіншаваў кансэкраваных асобаў з іх святам і ўдзяліў пастырскае бласлаўленне ўсім прысутным.

## У Віцебску біскуп заснаваў Катэхетычную раду

**У Віцебску 25 студзеня пачала сваю працу Катэхетычная рада пры катэхетычным аддзеле Курыі. Як вядома, на самім біскупу ляжыць асноўная адказнасць за стан рэлігійнага асветніцтва ў дыяцэзіі.**

■ Кс. Віктар Місевіч, *тэкст і фота*

Каб лепш выконваць гэтае адказнае заданне, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч дэлегаваў частку сваіх паўнамоцтваў дырэктару катэхетычнага аддзела с. Марыі Шамовіч BDNP і заснаваў Катэхетычную раду.

Катэхетычная рада створаная, каб спрыяць лепшай арганізацыі катэхетычнай дзейнасці ў парафіях. На сустрэчы 25 студзеня падчас дыскусій падымаліся вострыя пытанні. Сярод іх: актуальнасць катэхетычных праграм і метадалагічных дапаможнікаў у дыяцэзіі, рэгіянальныя асаблівасці парафій і іх значэнне для катэхезы.

Біскуп Алег Буткевіч зацвердзіў статут рады, паводле якога яна будзе збірацца прынамсі тройчы на год. Акрамя таго, прадугледжаная супольная праца анлайн для вырашэння пільных пытанняў.

У склад Катэхетычнай рады Віцебскай дыяцэзіі ўвайшлі:

*Паводле пасады:* с. Марыя Шамовіч BDNP – дырэктар катэхетычнага аддзела Курыі Віцебскай дыяцэзіі; кс. Алег Хмылко – адказны за душпастырства моладзі Віцебскай дыяцэзіі.

*Праз намінацыю біскупа:* кс. д-р Валерый Марціноўскі – пробашч катэдральнай парафіі ў Віцебску; а. Міхал Ермашкевіч OP – пробашч парафіі ў Сяне; а. Віктар Мялешка OFMConv – вікарый парафіі ў Удзеле; с. Мажэна Вельгус BDNP – катэхетка парафіі св. Антонія ў Віцебску; с. Магдалена Дзевульска CR – катэхетка парафіі ў Наваполацку; с. Анна Дзятлік ASC – катэхетка парафіі ў Докшыцах; сп. Алена Іосіфаўна Татун – катэхетка парафіі ў Канстанцінаве.

Склад рады прызначаны тэрмінам на пяць гадоў.





## Выставы ў Паставах

**Талент чалавеку дае Бог. Калі чалавек мае старанне і залатыя рукі, то дасягае ў жыцці значных поспехаў.**

Умногіх майстроў народнага клуба мастацкіх рамёстваў і мастакоў «Майстры» творчасць пачыналася як хобі. Але ў 1992 годзе творчыя натуры, у іх ліку выкладчык Пастаўскай школы мастацтваў імя Ромера Іосіф Атрахімовіч, заснавалі народны клуб «Майстры». Пра дасягненні клуба ведаюць і ў вобласці, і ў рэспубліцы. Але не забываюць майстры і сваіх землякоў.

Напярэдадні новага 2023 года ў Доме рамёстваў адкрыліся дзве выставы: «Зімовыя святы і абрады Пастаўшчыны» і «Калядныя цуды». Выставы працавалі больш месяца, а людзі ішлі і ішлі глядзець на экспанаты.

Вельмі ўразілі вышываныя бісерам карціны Леанарды Івановай, асабліва абразы. Уражанне ад іх як ад сапраўдных шэдэўраў мастацтва.

Прыцягвалі ўвагу жывапісныя карціны Сяргея Фарманюка, якіх на выставе было 18. Асабліва запомнілася карціна «Агні горада». Многія ж карціны мастака-самавучкі раз'ехаліся з сябрамі і роднёй па беларускіх гарадах, а таксама ва Украіну, Германію, Расію.

Танана Г.П. прадставіла карціну з саломкі «Масленіца». Крысціна Брэская парадавала гледачоў карцінай у тэхніцы лапікавага шыцця «Мой горад», на якой знайшлося месца і рацэ, і дамам, і касцёлу, і царкве. А Раіна Лушчык (лапікавае шыццё) стварыла вобразы птушак: снегіры, малінаўкі, вераб'і і іншыя. Цудоўная работа!

Таццяна Петух стварыла маляванкі «Раство Хрыстова», «Анёлы ля крыжа», выцінанку з паперы «Песня пра Паставы».

Карціна з саломкі Гукавай Вольгі «Калядаванне» і яе ж маляванкі паказваюць народны побыт і абрады.

Выставы арганізавалі дырэктар Дома рамёстваў «Стары млын», народны майстар Беларусі Таццяна Петух і кіраўнік клуба «Майстры» Алена Крывенькая.

*Ірына Філановіч,*
*г. Паставы*

# “Сусвет ёсць, але мяне ў ім няма”. Псіхолаг пра рэаліі дэпрэсіі

**У лютым польскую інтэрнэт-прастору ўскалыхнула навіна, што біскуп Эдвард Дайчак адмаўляецца ад сваёй пасады ў тым ліку па прычыне дэпрэсіі. Разам з тым, калі ў беларускіх сацсетках даецца анонс духоўных практыкаванняў на тэму змагання з дэпрэсіяй, месцы на ўдзел разлятаюцца з хуткасцю святла. Аднак у каталіцкай супольнасці дагэтуль можна пачуць недарэчныя адносна хворага парады: “табе проста трэба больш маліцца” або “пачні спавядацца часцей”. А псіхічная немач сярод духоўных асобаў – увогуле “табу”.**



Чаму дэпрэсія – гэта сур’ёзна і для выйсця з яе недастаткова духоўных практык, разбіраемся з траўматэрапеўтам, псіхолагам і каталічкай спадарыняй Анжалікай Кузікевіч.

**– Спадарыня Анжаліка, якія праблемы бяруць свой пачатак у псіхіцы, а якія – у духоўнасці?**

– Вельмі добра можна ўбачыць гэтую розніцу на прыкладзе сямі смяротных грахоў. Узяць хаця б нястрыманасць у ежы і піцці. Калі ў чалавека перыядычна ў моманты стрэсу здараюцца пераяданні, то такім чынам ён намагаецца атрымаць задавальненне, зняць напружанне. І гэта псіхічная праблема, якая патрабуе іншага вырашэння. Калі ж чалавек звычайна пераядае пры кожнай нагодзе – гэта абжорства, духоўная загана.

Або разгледзім ляноту. Калі псуюцца адносіны ў сужэнстве, а напрыклад, муж не хоча прыкласці найменшае намаганне, каб іх палепшыць, то гэта духоўная лянота – грэх. Аднак калі чалавек пакутуе праз пэўныя страхі і трывогі, што апанавалі ягоныя думкі, то гэта псіхічная праблема – дэпрэсіўны стан.

**– Калі проста, чым з’яўляецца дэпрэсія? Па якіх прыкметах яе можна заўважыць?**

– Дэпрэсія – гэта хвароба, якая дыягнастуецца медыцынскім псіхатэрапеўтам і для лячэння якой неабходна медыкаментознае ўмяшальніцтва, спалучанае з псіхатэрапіяй. Гэта не дрэнны настрой, выкліканы сваркай з блізкім чалавекам (бо ён зменіцца, як толькі наступіць прымірэнне). Гэта стан, з якім асоба не можа справіцца самастойна.

Прыгнечанасць цягам месяца, бяссілле, страта сэнсу жыцця, плаксівасць, парушаны сон – вось толькі некаторыя з доўгага спісу прыкмет дэпрэсіі. Вельмі дапамагчы ў вызначэнні наяўнасці сімптомаў можа быць апытанка Бэка, которая паказвае, на якой стадыі знаходзіцца чалавек: прыгнечаны настрой, дэпрэсіўны стан ці непасрэдна дэпрэсія.

**– Ці можа хворы дапамагчы сабе самастойна?**

**– Самае галоўнае ў выпадку дэпрэсіі – пагадзіцца прыняць дапамогу.**

Медыкаментозную, каб прыбраць сімптомы. А таксама псіхалагічную, каб разабрацца, што справакавала гэты стан, і больш не вяртацца да яго. Калі чалавек ведае, што існуе такі дыягназ, або ён назіраў яго ў блізкіх, яму будзе прасцей зразумець сваю сітуацыю. Аднак часта хворы проста не мае сілы, каб змагацца самастойна. Або адмаўляецца прызнаваць гэтую немач.

**– Што прадпрымаць і чаго пазбягаць у стаўленні да чалавека з дэпрэсіяй?**

– Думка, якая дамінуе ў галаве хворага, – што ён ніхто. Таму трэба бясконца нагадваць чалавеку пра яго добрыя справы, пра яго важнасць і каштоўнасць. Не крытыкаваць. Атачаць пашанай і клопатам. Прапаноўваць дапамогу, але не ціснуць. Мякка казаць пра тое, што варта было б праверыць, паставіць дыягназ. Існуе шмат фраз, да якіх хворы можа прыслухацца і пачаць дзейнічаць: “Так не можа больш працягвацца”; “Мне вельмі балюча глядзець на цябе, калі я бачу, як табе цяжка”; “Я адчуваю, што цябе нешта турбуе. Давай паспрабуем разабрацца разам”; “Можа, варта звярнуцца да доктара? Я суправаджу цябе на прыём”.

Дэпрэсія ўзнікае таму, што ў чалавека штосьці здарылася. І ў ніякім разе нельга абясцэньваць ягоныя праблемы. “Вазьмі сябе ў рукі”, “Не грузіся”, “Усё пройдзе”, “Падумаеш! Гэта ўсё глупства”, “Ды якія ў цябе праблемы?! Вось паглядзі, у іншых – праблемы! У каго дзеці хворыя, у каго рук, ног няма”. Згаданыя фразы ці рэзкі тон толькі пагоршаць стан таго, хто пакутуе, таму лепш іх не выкарыстоўваць.

**– Падчас псіхічнай немачы бяссілле прыходзіць у кожную сферу жыцця, нават у падтрыманне адносін з Богам. Як захаваць гэтую крыніцу моцы?**

– Любоў Хрыста не залежыць ад таго, наколькі якасна чалавек практыкуе веру. Напрыклад, калі хтосьці ляжыць без прытомнасці пасля аварыі і не можа звярнуцца да Бога, Ён усё роўна побач. Дэпрэсія – гэта хвароба, падчас якой вельмі складана адэкватна ўспрымаць рэальнасць. Таму трэба даць сабе час і не прымушаць рабіць больш, чым можаш. Бог усё роўна не пакіне.

**– Існуе падабенства ў апісанні дэпрэсіі і “ночы духа” – паняцця з каталіцкай духоўнасці, якое таксама характарызуе змрочныя думкі. Мы пачалі з адрознення паміж псіхічнымі і духоўнымі праблемамі, а як не блытаць згаданыя вышэй станы?**

– На маю думку, дэпрэсія – гэта калі ратвараецца “я”. Чалавек усведамляе існаванне свету, людзей навокал, Бога. Але ён страчвае сябе, страчвае сэнс уласнага жыцця. У сваю чаргу “ноч духа” – гэта адчуванне, нібы Бог раствараецца. Чалавек працягвае ўсведамляць сябе як асобу, але асоба Бога губляецца. Вернік хоча быць побач з Госпадам, але больш не бачыць Яго святла і блукае ў цемры. Падобнае адчуванне ўплывае на псіхічнае самапачуццё, але чалавек дастаткова добра функцыянуе ў атачэнні.

Іншае адрозненне – што “ноч духа” правакуюць прычыны, звязаныя з развіццём духоўнасці. Напрыклад, чалавек думаў, што святары бязгрэшныя, а аказалася інакш. Або пачалася вайна, і ён ад жаху абвінавачвае Бога. Падмурак веры парушаны, і гэта выклікае духоўны крызіс.

І апошняе: у выніку “ночы духа” наступае шмат пераасэнсавання таго, на чым будавалася вера, і чалавек расшыраецца духоўна, дапаўняе вобраз Госпада. Дэпрэсія ж проста вымотвае асобу.

**“Я заклікала на дапамогу ўсіх святых, але і звярталася да кампетэнтных людзей”. Ананімнае сведчанне манахіні**

Дэпрэсіўныя станы з’явіліся ў мяне пасля першых манаскіх шлюбаў. Узяла на сябе зашмат абавязкаў і пачала адчуваць эмацыянальную ды фізічную перагрузку. Бяссілле ішло нароўні з няўседлівасцю. Напрыклад, падчас св. Імшы я трымалася за лаўку, каб застацца на месцы – настолькі моцна хацелася кудысьці бегчы. Паступова ўва мне пасяліўся невытлумачальны смутак. І нецікавасць да ўсяго. Памятаю, сабраліся з сёстрамі кіно паглядзець – камедыю. Яны рагочуць, а мне маркотна. З’явіліся таксама дрыжыкі ў целе, трывога і страх, якія асабліва моцна даймалі мяне раніцай. Амаль знік сон. Дайшло да таго, што я была больш не ў стане выконваць свае абавязкі.

Знайсці зразуменне ў кляштары было складана нават пасля таго, як доктар прапісаў мне лекі для супакойвання нервовага напружання. Сястра, што мела пэўны кантроль над сітуацыяй, не хацела ані купляць таблеткі, ані даваць адпаведныя дозы. У выніку мяне проста адпусцілі дадому адпачыць. Аднак нават там, дзе я мела больш свабоднага часу і спакою, мой стан толькі пагоршыўся. Пачалі атакаваць думкі, што ад мяне няма ніякага толку, што няма сэнсу ў маім існаванні. А калі няма сэнсу ў жыцці, то навошта яго працягваць… І мяне так моцна спалохалі гэтыя разважанні, што я пачала актыўна шукаць дапамогу.

Зноў звярнулася да доктара. І гэтым разам пагадзілася легчы на лячэнне ў аддзел неўрозу, пачала рэгулярна прымаць таблеткі. Пакрысе мне станавілася лепш. Разам з тым распачала кансультацыі ў псіхолага, які ўжо працаваў са мной не над сімптомамі, але над прычынай дэпрэсіўнага стану. Спецыяліст дапамог навучыцца ставіць асабістыя межы, рацыянальна ацэньваць свае магчымасці. Я працягвала разбірацца з уласнымі ўнутранымі праблемамі ўсімі даступнымі спосабамі. Напрыклад, пачала ўдзельнічаць у сустрэчах для сузалежных, бо мой бацька быў алкаголікам.

У нашым асяроддзі тэма дэпрэсіі застаецца даволі закрытай. Калі б я не прайшла праз гэты складаны перыяд, не сутыкнулася з высмейваннямі, мне было б вельмі складана зразумець чалавека, які гаворыць пра падобныя перажыванні. І я вельмі рада, што цяпер маю дастаткова пашаны і спагады да людзей з якімі заўгодна ўнутранымі праблемамі. Хачу толькі папярэдзіць: калі заўважаеш у сябе ці ў бліжняга прыкметы дэпрэсіі, нельга зацягваць з лячэннем. Атрымай я своечасовую тэрапію, мой стан не зацягнуўся б на дзесяць гадоў.

Напрыканцы адзначу, што падчас гэтага балючага досведу ў мяне атрымалася яшчэ больш зблізіцца з Богам. Я навучылася абурацца перад Ім, канфліктаваць з Ім, запрашаць у свае праблемы. І ўпэўнілася, што Ён заўсёды мяне разумее і падтрымлівае.

**Як спавядацца падчас дэпрэсіі**

- Пашукаць добрага спаведніка. Важна, каб ксёндз добра ўспрымаў хворага, не казаў лішняга і не абцяжарваў занадта пакутай. Можна нават звярнуцца да ксяндзатэрапеўта, які растлумачыць розніцу паміж грахом і псіхічнай заганай.
- Звяртацца да маладых святароў. Ёсць шанс, што яны больш зарыентаваныя ў тэме дэпрэсіі, мелі адпаведныя лекцыі і з большым разуменнем будуць ставіцца да пенітэнта.
- Падрыхтавацца да споведзі ў меру магчымасцей.
- Пазбягаць сітуацыі, калі перад сакрамантам пакаяння трэба адстаяць доўгую чаргу.
- Спавядацца найбольш проста: толькі з самых цяжкіх і важных грахоў.
- Падчас споведзі няма абавязку прызнавацца ў дэпрэсіі. Аднак калі паведаміць святару, то ён зможа правільна інтэрпрэтаваць думкі і чыны пенітэнта.

*Ангеліна Марцішэўская*

# У Глыбокім з’явіліся свецкія асістэнты для ўдзялення Святой Камуніі

**Біскуп Віцебскі даў дазвол двум свецкім вернікам з парафіі ў Глыбокім дапамагаць святарам падчас раздавання Св. Камуніі. Такая патрэба ў парафіі з’явілася праз вялікую колькасць парафіян на св. Імшы ў нядзелю і ўрачыстасці і праз недахоп святароў.**

**Кс. Віктар Місевіч**

Кодэкс Кананічнага Права прадугледжвае ў такіх выпадках магчымасць раздавання Св. Камуніі спецыяльна падрыхтаванымі для гэтага свецкімі вернікамі. Асістэнтамі для ўдзялення Святой Камуніі ў Глыбокім сталі Анатоль Цырук і Часлаў Чарапкоўскі.

У адмысловым дэкрэце біскуп Віцебскі зазначыў, што гэтыя вернікі могуць удзяляць Св. Камунію ў выпадках, калі:

– існуе недахоп прэзбітараў, дыяканаў і аколітаў;

– прэзбітар, дыякан ці аколіт не могуць удзяліць Святую Камунію вернікам па прычыне занятасці іншай пастырскай паслугай, з-за хваробы ці сталага ўзросту;

Вялікая колькасць вернікаў, якія хацелі б прыступіць да Святой Камуніі, магла б прывесці да таго, што цэлебрацыя св. Імшы або ўдзяленне Святой Камуніі па-за Імшой працягваліся б занадта доўга.

Важна падкрэсліць, што ніколі нельга выконваць гэтую замяшчальную функцыю, калі прысутны іншы свабодны служыцель (прэзбітар, дыякан ці аколіт), які можа дапамагчы ў раздаванні Святой Камуніі.

Перад удзяленнем Святой Камуніі названыя вышэй асістэнты павінны кожны раз атрымліваць блаславенне ад прэзбітара згодна з рубрыкамі Рымскага Імшала для дыяцэзій у Беларусі.

# Дрэс-код у касцёле. Як апранацца ў святыню?

***– Хвала Хрысту! Мяне непакоіць пытанне, як трэба апранацца, ідучы ў Касцёл? Вельмі сумна глядзець на людзей, што апранаюцца ў Касцёл, як быццам бы яны ідуць у магазін, у кавярню, а часам увогуле, як на пляж. Вельмі брыдка глядзець на жанчын, якія выходзяць да амбоны чытаць Божае слова, а апранутыя пры гэтым у абцягнутыя джынсы і з распушчанымі, а часам не мытымі валасамі.***

***Падкажыце, калі ласка, як трэба апранацца і ці існуе пэўны "дрэс-код" для Касцёла? Вялікі дзякуй за адказ.***

***Алена***

– Хвала на векі! Паважаная спадарыня Алена! Вялікі дзякуй за такое цікавае пытанне. Насамрэч, у Вашым пытанні ёсць адразу некалькі пытанняў, на якія я паспрабую даць адказ. Адно з іх датычыць паслугі лектара (асобы, якая чытае чытанні падчас святой Імшы), а другое датычыць таго, як трэба апранацца, ідучы ў Касцёл.

Падчас цэлебрацыі святой Імшы вернікі ўтвараюць святы люд, набыты народ, каралеўскае святарства. Неабходна, каб хрысціяне падчас гэтай таямніцы веры прысутнічалі не як староннія маўклівыя гледачы, але каб праз абрады і малітву добра разумелі гэтую таямніцу і каб свядома, пабожна і актыўна ўдзельнічалі ў сакральным дзеянні. Яны павінны выхоўвацца Божым словам, падмацоўвацца са стала Божага Цела і дзякаваць Богу. Прыносячы беззаганную Ахвяру не толькі праз рукі святара, але і разам з ім, яны павінны вучыцца прыносіць у ахвяру саміх сябе, і праз пасярэдніцтва Хрыста з кожным днём удасканальвацца ў еднасці з Богам і паміж сабой (пар., Канстытуцыя пра святую літургію *"Sacrosanctum concilium", 48).*

**Хто такія лектары?**

Вернікі не павінны адмаўляцца з радасцю служыць народу Божаму, калі іх просяць выконваць якую-небудзь асаблівую паслугу ці абавязак падчас літургічнага дзеяння (пар., Агульныя ўводзіны да Рымскага Імшала, 97).

Мы ведаем, што да асаблівых падчас літургічных дзеянняў належаць паслугі акаліта, лектара, псальміста, хору, кантара і некаторыя іншыя.

Лектар устаноўлены для чытання тэкстаў Святога Пісання, за выключэннем Евангелля. Ён можа таксама прамаўляць інтэнцыі агульнай малітвы (малітвы вернікаў), а калі адсутнічае псальміст, спяваць або прамаўляць паміж чытаннямі псальмаў.

Таксама падчас цэлебрацыі святой Імшы лектар мае ўласныя абавязкі, якія павінен выконваць сам. У час працэсіі да алтара, калі адсутнічае дыякан, лектар, апрануты ў зацверджаныя літургічныя шаты, можа несці Евангеліярый. Чытанні, якія ідуць перад Евангеллем, лектар чытае ад амбоны. Калі няма дыякана, пасля ўступу, зробленага святаром, лектар ад амбоны чытае інтэнцыі агульнай малітвы. Калі няма спеву на ўваход альбо на Камунію, а вернікі не прамаўляюць антыфонаў, пададзеных у Імшале, лектар у належны час можа прамовіць іх сам.

Святы Айцец Францішак Апостальскімі Лістамі *Ministeria quaedam, Spiritus Domini і Antiquum ministerium* мадыфікаваў устаноўленыя служэнні лектарату і акалітату і ўстанавіў свецкую паслугу катэхета. Згодна з пажаданнем Святога Айца, паслуга лектара, акаліта і катэхета можа быць удзелена як мужчынам, так і жанчынам. Пасля абраду ўдзялення паслугі біскуп дае кожнаму ўстаноўленаму служыцелю місію на канкрэтнае выкананне служэння.

З усяго сказанага бачна, што лектарам не можа быць "першая лепшая" асоба. Для добрага выканання літургічнага служэння лектара неабходныя сталасць асобы, спецыяльная падрыхтоўка і прыдатнасць. У Касцёле "Абрад удзялення паслугі лектара" здзяйсняецца біскупам.

Як было сказана напачатку, лектар падчас нясення літургічнай паслугі павінен быць апрануты ў зацверджаныя літургічныя шаты. Часцей за ўсё літургічнай шатай лектара з'яўляецца альба, якая, у сваю чаргу, павінна адрозніваецца ад альбы святара. Зацвярджэнне літургічных шатаў у дыяцэзіі адносіцца да кампетэнцыі біскупа дыяцэзіі альбо да Канферэнцыі біскупаў. Калі форма літургічнай шаты не вызначана, то, хутчэй, адзенне лектара павінна быць прыстойным і сціплым, каб падчас выканання паслугі ўвага вернікаў не была звернута на яго адзенне, а на Божае слова, якое абвяшчаецца.

**Існуе шэраг умоў, якім павінен адпавядаць лектар:**

✔ тэхнічная здольнасць вымаўляць словы правільна, чыстым голасам, са збалансаваным тонам і рытмам, з належнай увагай да выкарыстання мікрафона, каб прысутныя на літургічным дзеянні маглі правільна чуць тое, што абвяшчаецца;

✔ катэхетычная падрыхтоўка да тэкстаў, якія трэба абвяшчаць, размежаванне літаратурных жанраў, веданне тыпу абраду, які адбываецца, і канкрэтнага свята, якое цэлебруецца;

✔ духоўны настрой лектара, які ўсведамляе выкананне святога служэння, што патрабуе годнасці вопраткі і паставы, спакою сэрца і зладжанасці жыцця.

Там, дзе да гэтага схіляе патрэба Касцёла, пры недахопе служыцеляў свецкія вернікі, нават не будучы лектарамі, могуць выконваць іх абавязкі (пар. кан. 230 § 3 Кодэкса Кананічнага Права). У наступным каноне Кодэкс кажа, што свецкія асобы, якія пастаянна або часова прысвячаюць сябе спецыяльнаму служэнню Касцёлу, павінны набываць належную падрыхтоўку, неабходную для якаснага выканання свайго задання, і выконваць сваё заданне свядома, уважліва і пільна (пар. кан. 231 ККП).

**Два ўспаміны святара**

Другая частка пытання датычыць "дрэс-коду" для Касцёла. Адказваючы на яго, дазволю сабе два ўспаміны. Адзін – з майго дзяцінства, другі – нядаўні.

Я, як і шматлікія вернікі майго ўзросту, рэлігійна выхоўвайся бабуляй. І прыпамінаю наступнае: бабуля заўсёды мела адмысловую вопратку, якую апранала толькі ідучы ў касцёл. Існавалі "касцельная" хустка, сукенка, туфлі. Маёй вопраткай былі штаны, кашуля з доўгімі рукавамі і туфлі. Ніякіх шлапакоў, сандаляў, джынсаў, красовак і да гэтага падобнага быць не магло.

Другі ўспамін звязаны з казаннем аднаго святара, якое было прысвечана менавіта таму, як трэба апранацца, ідучы ў святыню. Ён казаў, што прысутнасць хрысціяніна ў святыні вымагае і хрысціянскага знешняга выгляду. Важным з'яўляецца не толькі духоўная падрыхтоўка, малітоўны настрой, але і вопратка, якая павінна адпавядаць месцу. Футболка менавіта так і завецца, бо ў ёй гуляюць у футбол. Лёгкая блузка з кароткім рукавом на дзяўчыне ці жанчыне выглядае вельмі прыгожа, але дома або ў парку.

Як прыклад гэты святар прывёў размову дзвюх жанчын: адной старэйшай, другой маладзейшай. Маладзейшая прыйшла ў касцёл у сарафане. І старэйшая жанчына запытала ў маладзейшай, чаму менавіта ў сарафане? Адказ быў наступным: на двары лета, вельмі горача. На што старэйшая жанчына сказала: а вы бачылі калі-небудзь нябожчыцу ў труне ў сарафане? Не. А ў шортах або джынсах ці футболцы? Таксама не. Сапраўды. Нябожчыкаў апранаюць у сукенку з доўгім рукавом, касцюм, адным словам, у прыстойную вопратку. Часцей за ўсё нябожчыцы завязваюць хустку. "А чаму так", – задала пытанне старэйшая жанчына маладзейшай? – "Не ведаю", – адказала тая. А таму, што нябожчыкаў рыхтуюць для ўваскрасення і да сустрэчы з Богам на апошнім судзе. І апранаюць іх прыстойна, як да сустрэчы з Богам. І мы ў касцёл ідзём таксама на сустрэчу з Богам, таму і павінны апранацца годна.

**Дрэс-код для вопраткі і паводзінаў**

І сапраўды, калі мы паразважаем, то ў прыстойны рэстаран у футболцы нас не пусцяць. У шортах ці сарафанах не пусцяць у оперны тэатр (дарэчы, культурны чалавек сам так не апранецца, ідучы ў тэатр). Ідучы ў касцёл, мы ідзём на больш сур'ёзнае спатканне, чым футбол і тэатр, мы ідзём на спатканне з Богам, са Стваральнікам усяго сусвету. І гэтая сур'ёзнасць павінна быць не толькі ў нашай душы, у нашым настроі, але і ў нашай вопратцы, у нашым знешнім выглядзе.

Сапраўды, як кажа адзін з лацінскіх выразаў *cucullus non facit monachum* – клабук не робіць манахам, аднак правільным з'яўляецца і тое, што ў святых месцах павінна быць строгасць і дэкор як у вопратцы, так і ў паводзінах. Касцёл – гэта "дом Божы", куды перш за ўсё ідуць маліцца. Гэта не месца, дзе можна захапляцца моднымі паказамі або дзе можна абменьвацца думкамі падчас гаміліі на Імшы. Не кажучы ўжо пра прысутнасць мабільнага тэлефона, званкі якога гучаць нават у самыя важныя хвіліны.

Вось таму і існуе ў Касцёле "дрэс-код" як для вопраткі, так і для паводзінаў. Як заўважалася вышэй, у людзей няма праблем з належнай вопраткай на вяселлях, пахаваннях, офісных вечарынах або спатканнях, але частка лічыць, што адпаведнае адзенне для спаткання з Богам на Імшы састарэла. Аднак ідучы на святую Імшу, заўсёды трэба апранацць сціплае, чыстае і ў той самы момант прыгожае адзенне.

**Некалькі практычных парадаў**

Тыповая мужчынская вопратка, якая лічыцца сімвалам добра апранутага мужчыны, – гэта касцюм, кашуля і гальштук або штаны, кашуля і туфлі. Мужчыны перад уваходам у касцёл павінны зняць капялюш.

Як кажа адно выслоўе, найлепшым упрыгожваннем жанчыны з'яўляецца не адзенне, а сціпласць. Добрым адзеннем для жанчыны будзе блузка са спадніцай ці сукенка, але такой даўжыні, каб прыкрыць калені. Пажадана не апранаць топы без рукавоў, абліпальныя і празрыстыя блузкі або сукенкі з глыбокімі выразамі. Плечы заўсёды павінны быць прыкрытыя. Жанчыны падчас Імшы могуць мець галаўны ўбор (капялюш або хустку).

Пажадана не прыходзіць у касцёл у ірваных джынсах і спартыўных штанах. Прыгожыя джынсы могуць быць добрай вопраткай, аднак і яны не ідэальна падыходзяць для літургічнага дзеяння. Але калі джынсы – гэта адзінае, што ёсць, то іх дазваляецца апранаць. Як мужчынам, так і жанчынам і дзецям забараняецца прыходзіць у касцёл у шортах.

Тое, што датычыць абутку, то, як было заўважана вышэй, найлепшым варыянтам будзе абутак на плоскай падэшве – туфлі. Не варта прыходзіць у касцёл на высокіх абцасах, у адкрытых басаножках і шлапаках, якія больш падыходзяць для паходу на пляж ці ў басейн, а не для ўдзелу ў Імшы.

Пералічаныя патрабаванні служаць не для таго, каб "упісацца ў сацыяльнае асяроддзе", як многія лічаць, але для таго, каб Святая Імша стала сапраўднай сустрэчай з Панам, месцам, годным Яго прыняць, месцам святым. Як хрысціяне і католікі мы пакліканыя шукаць дасканаласці, і таму вопратка не павінна быць нагодай для адмовы ад цнотаў і ад атаясамлення з Хрыстом. Чысціня, прыстойнасць і адметнасць – гэта фундаментальныя звычкі, якія мы павінны прывіваць будучым пакаленням, асабліва ў свеце, што часта вельмі паблажлівы.

"Кожная святая Імша мае бясконцую, велізарную каштоўнасць, якую мы не можам да канца зразумець: яна радуе ўвесь нябесны двор, супакойвае бедныя душы ў чыстцы, прыцягвае на зямлю разнастайныя бласлаўленні і аддае больш хвалы Богу, чым усе цярпенні мучанікаў, пакаянні ўсіх святых, усіх слёз, якія яны пралілі ад пачатку свету, і ўсяго, што яны будуць рабіць да канца часоў" (св. Ян Марыя Віянэй).

*З малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***



***Спартыўныя майкі***



***Шорты або міні-спадніца***



***Шлёпанцы***



***Капелюшы або кепкі***



***Адкрытыя дэкальтэ***



***Яркая біжутэрыя, цацанкі і пярсцёнкі***

# Моладзі ўсё менш, Праваслаўная Царква не аддае каталіцкія святыні: як жыве Касцёл у Грузіі

**Грузія – традыцыйна праваслаўная краіна. Каталікі тут заўсёды былі меншасцю, на сённяшні дзень каталіцкая супольнасць складае каля двух працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва – гэта каля ста тысяч чалавек. Каталіцкія святыні тут можна сустрэць толькі ў буйных гарадах, такіх, як Тбілісі, Батумі, Кутаісі. Пра тое, як жыве Касцёл у Грузіі, нашая карэспандэнтка, што цяпер жыве ў Батумі, пагутарыла з Нанай Нэбіэрыдзэ, верніцай з Кутаісі, сябрам касцельнага камітэта і прадстаўніцай prolife-арганізацыі "Iner-Georgia".**



**"Пануе ўяўленне: калі ты грузін, то мусіш быць праваслаўным"**

**– Нана, распавядзіце, калі ласка, як сёння выглядае жыццё каталіцкай парафіі ў Кутаісі?**

– У нас вельмі праблемная сітуацыя. Мы не маем святыні як такой, бо яе забралі праваслаўныя. Як і ў Батумі, зрэшты. Мы з вамі цяпер размаўляем у новапабудаваным касцёле, а старая прыгожая неагатычная святыня ў старым горадзе належыць праваслаўным. Такая ж сітуацыя ў Кутаісі і ў некаторых іншых грузінскіх мясцовасцях – Горы, вёсцы Удэ (там быў вялікі касцёл і яго забралі). Усяго ў грузінскіх католікаў забралі пяць касцёлаў.

У некаторых гарадах пабудавалі новыя святыні, але ў Кутаісі – не. Касцёл выкупіў у цэнтры горада двухпавярховы будынак, там жывуць нашыя айцы, і на першым паверсе там зрабілі капліцку.

**– Колькі ў Кутаісі цяпер вернікаў?**

– Напрыканцы ХІХ – у пачатку ХХ стагоддзяў у нашым рэгіёне – Імерэтыі – было шмат католікаў. Але дзесяцігоддзі Савецкага Саюза, а потым – прапаганда праваслаўных супраць католікаў зрабілі сваю справу. Цяпер у нас засталося каля ста чалавек, якія рэгулярна прыходзяць. У Батумі яшчэ менш і нават парафіі няма – служба праводзіцца толькі па нядзелях.

У нас амаль не засталося дзяцей і моладзі. З Грузіі ўвогуле вельмі вялікая міграцыя: моладзь з'язджае, асабліва з такіх невялікіх гарадкоў, як Кутаісі. Едуць у сталіцу ці за мяжу. Мая дачка таксама жыве ў Нямеччыне, і сын хоча з'язджаць.

Акрамя таго, пануе ўяўленне, што, калі ты грузін, то мусіш быць праваслаўным – ідзе моцны ціск з боку Праваслаўнай Царквы.

**Грузіны вучацца на святароў у Італіі ці Казахстане**

**– Нана, ці спрабавалі каталікі Грузіі размаўляць з уладамі, з Праваслаўнай Царквой, каб вярнуць сабе свае святыні?**

– Магу сказаць пра наш касцёл у Кутаісі. Яго цалкам зачынілі саветы ў 1930-я гады. Але пакінулі там арган, са святыні зрабілі канцэртную залу і ладзілі там выступы. У 1990-я гады, пасля перабудовы, улады аддалі касцёл праваслаўным. Мы спрабавалі размаўляць і з патрыярхам, і ў судзе справа была на пачатку 2000-х гадоў. Але мы не змаглі нічога дамагчыся. Тое самае адбылося ў Батумі – там прыгажэнны касцёл пабудовы пачатку ХХ стагоддзя зрабілі кафедральным праваслаўным саборам, а католікам у 2000-х давялося будаваць сабе новую святыню.

**– Як я бачу, у Батумі з Кутаісі прыязджае служыць ксёндз-італьянец, і біскуп у Грузіі таксама італьянец. А ці ідуць мясцовыя жыхары ў духавенства?**

– У Кутаісі італьянцы прыехалі ў 1990-х гадах. Старэйшаму – айцу Луіджы – ужо 94 гады. Ён стварыў італьянска-грузінскі, грузінска-італьянскі, а таксама лацінска-грузінскі слоўнікі, граматыку грузінскай мовы для італьянцаў. Айцец Габрыэль цяпер у нас служыць, у Батумі ездзіць. Біскуп Джузэпэ Пазота, таксама італьянец, адзіны біскуп у Грузіі. Таксама ў нас у Кутаісі дзве сястрыманахіні ёсць з Італіі.

Але грузіны таксама ідуць у святары. У нас ёсць некалькі маладых святароў з Самцхэ-Джавахеці, Ахалцыхэ, дзе каталіцызм заўсёды быў больш распаўсюджаны. Яны служаць у тым жа рэгіёне ў вёсках.

**– Дзе вучацца грузіны, якія хочуць стаць святарамі?**

– У Грузіі няма семінарыі. Некаторыя вучацца ў Рыме ці ў Казахстане – туды едуць тыя, якія могуць навучацца на расейскай мове. У Грузіі ёсць толькі каталіцкі ўніверсітэт Сулхан-Сабы Арбеліані ў Тбілісі, там ёсць тэалагічны факультэт. Туды нават праваслаўныя ідуць вывучаць тэалогію. Універсітэт мае дзяржаўную акрэдытацыю, заснаваў яго наш біскуп Джузэпэ Пазота.

**"У цяжкія часы католікі шмат дапамаглі грузінам"**

**– Нана, распавядзіце, калі ласка, пра сябе. Вы выраслі ў сям'і каталікоў ці каталіцтва – гэта быў ваш свядомы выбар?**

– Я нез дзяцінства каталічка, мяне хрысцілі ў Праваслаўнай Царкве. Я нарадзілася ў Батумі, жыла тут. Мая бабуля была вельмі шчырай верніцай і вадзіла мяне ў царкву. Але яна мяне не вучыла, мы з ёй толькі свечкі ставілі, часам распавядала штосьці, але там было шмат мешаніны рэлігіі з забабонамі.

Потым я выйшла замуж за хлопца з Кутаісі з вельмі вядомай каталіцкай сям'і. У Кутаісі католікі вылучаліся сваёй адукаванасцю, у іх быў кантакт з Еўропай, яны выязджалі туды, вывучалі розныя спецыяльнасці. У выніку сярод католікаў было шмат лекараў, інжынераў, увогуле navатараў. Яны прывозілі з сабой усё новае, што бачылі ў Еўропе, і замацоўвалі ў Кутаісі. Яны былі ўсе вядомымі людзьмі. Ад сям'і свайго мужа я атрымала першыя веды пра каталіцтва.

Калі ў Кутаісі прыехалі айцы-італьянцы, да нас у сям'ю прыходзіў пазнаёміцца падрэ Джузэпэ, тады ён яшчэ не быў біскупам. Яго пасвяцілі пасля візіту Яна Паўла ІІ у Грузію ў 2000 годзе.

У нашай каталіцкай супольнасці адразу пачалося шмат розных актыўнасцяў. Нашая суполка ў тыя цяжкія гады моцна дапамагала ўсяму гораду лекамі – стварыла амбулаторыю, якая дагэтуль працуе, падтрымлівала воправай, прадуктамі – усё, што прывозілі з Еўропы, раздавалі мясцовым. Я ўсё гэта чула, бачыла, мне гэта падабалася. Потым я трапіла на кампус-школу для сем'яў, якую вёў паляк айцец Ежы. Я была ў захапленні ад таго, што мне распавядаюць пра Бога, пра гісторыю Хрыста, і так я пачала хадзіць у касцёл. І ён стаў для мяне другім домам.

**"Хацелася б супрацоўніцтва з Праваслаўнай Царквой"**

**– Што вы цяпер робіце ў Касцёле?**

– Працую ў арганізацыі, якую мы стварылі разам з сястрой-італьянкай Ганнай-Марыяй – Iner-Georgia. Мы працуем з маладымі сем'ямі, жанчынамі, самотнымі, шматдзетнымі, сацыяльна неабароненымі, цяжарным дапамагаем. Выкладаем метад натуральнага распазнавання фертыльнасці, каб жанчыны ведалі свой біялагічны рытм і не цярпелі ад кантрацэпцыі і абортаў, а самі рэгулявалі колькасць цяжарнасцяў і дзяцей. На жаль, у Грузіі да дванаццаці тыдняў дазволеныя аборты, а паводле паказанняў – і да дваццаці двух тыдняў, і мы спрабуем з гэтым змагацца.

Мы праводзілі вялікія маршы за жыццё. Рэгулярна ўносім у парламент нашыя прапановы, у тым ліку па паляпшэнні становішча жанчын у дэкрэтным адпачынку.

Сястра Лурдэна ў Батумі кіруе "Карытасам" у Заходняй Грузіі – у іх ёсць прытулак для бяздомных, рэабілітацыйны цэнтр пад Батумі для залежных ад алкаголю і шмат іншых кірункаў дзейнасці.

**– Якія цяжкасці, выклікі ў грузінскім Касцёле вам хацелася б вырашыць у першую чаргу?**

– Нам хацелася б супрацоўніцтва з Праваслаўнай Царквой. Мы сустракаліся з айцамі праваслаўнымі, знаёмілі з нашай дзейнасцю. Але ўсё роўна часта чуем, напрыклад, ад жанчын, якіх запрашаем на нашыя курсы распазнавання фертыльнасці: праваслаўны настаўнік ім кажа, што да нас ісці нельга.

У Праваслаўнай Царкве не хочуць вянчаць праваслаўнага з католікам, яны прымушаюць католіка наноў хрысціцца ў праваслаўе, не прызнаюць хрышчэнне ў Касцёле, і гэта ствараe шмат праблем маладым. Гэта ўсё нас вельмі засмучае.


Праваслаўны кафедральны сабор у Батумі, былы касцёл

**Касцёл у Грузіі: кароткая гісторыя**

Каталіцызм у Грузіі прадстаўлены Рымска-Каталіцкай і Армянскай Каталіцкай Цэрквамі. Найбольш католікаў у вялікіх гарадах і на поўдні краіны.

Католікі заўсёды былі меншасцю ў Грузіі, але ў той жа час сярод іх было шмат знакамітых людзей: пісьменнік, навуковец і палітычны дзеяч Сулхан-Саба Арбеліані (1658-1725), у гонар якога цяпер названы ўніверсітэт; святар, навуковец, царкоўны гісторык, грамадскі дзеяч, доктар тэалогіі, прафесар Міхаіл Тамарашвілі (1858-1911); кампазітар, аўтар гімна Грузіі і шматлікіх опер Захар Паліашвілі (1871 – 1933); прадпрымальнікі і мецэнаты браты Зубалашвілі, якія жылі напрыканцы ХІХ – у першай палове ХХ стагоддзяў, на іх сродкі ў 1903 годзе быў пабудаваны касцёл у Батумі, які цяпер з'яўляецца праваслаўным кафедральным саборам; тэатральны мастак Пётр Ацхелі (1907-1937).

У ХІХ стагоддзі былі пабудаваныя каталіцкія святыні ў Тбілісі, Батумі, Кутаісі. У 1921 годзе, з прыходам улады бальшавікоў, на католікаў пачаўся ціск. Шмат якіх каталіцкіх святароў арыштавалі. Касцёлы зачынялі. Застаўся толькі адзін дзейны касцёл – Святых Апосталаў Пятра і Паўла ў Тбілісі. Да пачатку 1990-х гадоў дзейнасць Каталіцкага Касцёла ў Грузіі амаль цалкам спынілася.

24 траўня 1992 года Папа Рымскі Ян Павел ІІ заснаваў Апостальскую адміністратуру для Грузіі, якая напрыканцы 1993 года была пераўтвораная ў Апостальскую адміністратуру Каўказа і аб'яднала Азербайджан, Арменію і Грузію. З 1997 года функцыі Апостальскага адміністратара пачаў выконваць святар Джузэпэ Пазота. У 2000 годзе ён быў пасвечаны ў біскупы.

8 лістапада 1999 года Грузію з пастырскім візітам наведаў Ян Павел ІІ. 30 верасня 2016 года ў Грузіі быў Папа Рымскі Францішак.

Сёння ў Грузіі дзейнічае адна Апостальская адміністратура Каўказа. Працуюць 27 парафіяў.

У 2012 годзе ў горадзе Ахалцыхэ ў аднаўленым касцёле Маці Божай Ружанцовай быў адкрыты першы ў Грузіі каталіцкі кантэмпляцыйны манастыр, у якім жывуць чатыры сястры-бэнэдыктынкі з Італіі.

*Размаўляла*
***Марыя Карловіч***

# Выступленне біскупа Яшэўскага на Еўрапейскай асамблеі Сіноду Біскупаў у Празе

**6 лютага, у першы працоўны дзень Еўрапейскай асамблеі Сіноду Біскупаў на тэму сінадальнасці ў Празе (Чэхія), выступіў прадстаўнік Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB.**



У сваёй прамове Старшыня Сінадальнай камісіі пры ККББ зазначыў тэмы, якія знаходзяць найбольшы водгук у Касцёле ў нашай краіне. Тэзісы яго выступу былі сфармуляваныя ў выніку сумеснай працы усіх біскупаў Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Перадусім яны сцвердзілі, што супольнасць Касцёла ў нашай краіне з вялікай радасцю прыняла ініцыятыву Папы Францішка склікаць Сінод на тэму сінадальнасці.

Было адзначана, што, з аднаго боку, гэта ўпершыню дазволіла вялікай колькасці людзей – як вернікаў, так і тых, хто не належыць да Каталіцкага Касцёла, – выказацца пра яго, быць пачутымі і ўзяць удзел у яго жыцці з мэтай вырашэння надзённых праблем і ўдасканалення. З другога боку, гэта дало магчымасць непасрэднага супастаўлення поглядаў паміж рознымі яго чальцамі, асабліва духавенствам і свецкімі, на ўсіх узроўнях яго жыцця.

Паколькі сінадальны працэс не з'яўляецца чымсьці новым для Каталіцкага Касцёла, мэтазгодным уяўляецца падумаць пра арганізацыю сінадальнай фармацыі семінарыстаў, святароў, евангелізатараў, катэхетаў і іншых вернікаў. Гэта, паводле прадстаўніка беларускага каталіцкага епіскапату, спрыяла б умацаванню жыццяздольнасці і эфектыўнасці працэсу ва ўсіх вымярэннях касцельнага і хрысціянскага жыцця.

Яшчэ адным павучальным момантам была названа большая ўвага да ролі жанчыны ў жыцці Касцёла. Выходзячы з сакраманту хросту, як раўнапраўныя чальцы Народа Божага яны павінны заняць належнае ім месца ў рэалізацыі місіі і дзейнасці Касцёла.

Вартым увагі стала ўсведамленне значнасці ўдзелу ў яго жыцці маладых людзей, а менавіта іх сталення, узрастання ў веры і пачуцці адказнасці за яго развіццё, бо, як падкрэсліў біскуп Яшэўскі, моладзь – гэта будучыня Касцёла.

Выступоўца таксама вызначыў праблемы і пытанні, якія варта ўлічыць на наступным этапе сінадальнага працэсу.

Паколькі ў працу Сіноду Біскупаў на тэму сінадальнасці ўключаны не толькі духоўныя асобы, пастыры, чальцы інстытутаў кансэкраванага жыцця і супольнасцяў апостальскага жыцця і іншыя, а заклік скіраваны да ўсіх людзей добрай волі, важным з'яўляецца наданне большай увагі ўжыванню ў сінадальным працэсе ўсім зразумелай тэрміналогіі, асабліва ў пастаноўцы пытанняў і ў выкарыстанні тэалагічных тэрмінаў у адпаведнасці з менталітэтам сучаснага чалавека.

Акрамя таго, на агульную думку біскупаў Касцёла ў Беларусі, неабходна разгледзець і ўлічыць праблематыку праўдзівага дыялогу паміж духавенствам і свецкімі вернікамі, а таксама іх паўнавартаснага супрацоўніцтва, якое б з яго вынікала. Біскуп Яшэўскі звярнуў увагу на тое, што, закранаючы пытанні духоўнага жыцця людзей, якія жывуць у паўторным шлюбе, палігаміі і з нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй, неабходна прытрымлівацца адзінага меркавання, як паступаць у такіх сітуацыях, незалежна ад культурных умоў, бо Божы закон адзін для ўсіх. Розны падыход партыкулярных Касцёлаў вельмі небяспечны, бо парушае адзінства і нясе збянтэжанасць у шэрагі вернікаў.

Нарэшце, прадстаўнік ККББ выказаўся адносна прыярытэтаў, нязменных тэм і заклікаў да дзеяння, адзначыўшы перадусім, што Касцёл павінен працягваць сінадальны працэс праз слуханне, дыялог і распазнаванне, ствараючы на ўсіх узроўнях культуру сінадальнасці, якая адпавядае мясцовым умовам. Паводле прадстаўніка ККББ, неабходна ўмацоўваць пачуццё прыналежнасці да Касцёла ўсіх яго чальцоў, на практыцы пацвярджаючы, што Касцёл – гэта не толькі біскупы і святары, але таксама і свецкія вернікі. Пры гэтым варта асцерагацца, каб духоўныя асобы не лаіцызаваліся, а свецкія – не клерыкалізаваліся, бо кожны пакліканы Панам для выканання канкрэтнай місіі ў Касцёле. Пад клерыкалізацыяй у гэтым кантэксце маецца на ўвазе выкананне свецкімі тых функцый, якія знаходзяцца ў выключнай кампетэнцыі святароў, што ўжо часам адбываецца.

На заканчэнне прамовы на Еўрапейскай асамблеі Сіноду Біскупаў на тэму сінадальнасці біскуп Аляксандр Яшэўскі дадаў, што параўнанне Касцёла з шатром, які знаходзіцца ў дынамічным стане і такім чынам забяспечвае ўстойлівасць, сімвалізуе трываласць асноваў веры, заклікае нас да дынамізму ў жыцці Касцёла і да заўсёды актуальнага працэсу aggiornamento – актуалізацыі ў адпаведнасці з выклікамі сённяшняга дня.

Выступ іерарха дапоўніў супрацоўнік Сінадальнай камісіі пры ККББ ксёндз Віктар Гайдукевіч SDB, які разам з біскупам Яшэўскім прадстаўляе Касцёл у Беларусі на Еўрапейскай асамблеі Сіноду Біскупаў у Празе.

*Catholic.by*

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 сакавіка – дзень нараджэння** адзначае **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**7 сакавіка – дзень нараджэння** адзначае **а.Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**8 сакавіка – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**17 сакавіка – дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*;

**18 сакавіка – дзень нараджэння** адзначае **біскуп Алег Буткевіч;**



**28 сакавіка – дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Пінская дыяцэзія)*;

**31 сакавіка – дзень нараджэння** адзначае **кс. Уладзіслаў Шаркович** *(Дрысвяты)*.

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Цуды ў Евангеллях. Тэст

**Цуды былі не галоўнай, але неад'емнай часткай місійнай дзейнасці Езуса. Пазней распаўсюджванне Добрай Весткі апосталамі таксама суправаджалася цудамі. Прапануем вам праверыць свае веды пра цуды, якія апісваюцца на старонках Евангелляў.**

**1 Які быў першы цуд Езуса?**



**А.** ацаленне цешчы Пятра
**Б.** ператварэнне вады ў віно
**В.** ператварэнне каменя ў хлеб

**2 Праз які цуд Езуса не прыняў цэлы край?**



**А.** утаймаванне буры
**Б.** ацаленне спаралізаванага
**В.** выгнанне Легіёну

**3 Хто з апосталаў хадзіў па вадзе?**



**А.** Пётр
**Б.** Ян
**В.** Якуб

**4 Колькі разоў у Евангеллях апісваецца памнажэнне хлябоў Езусам?**



**А.** 1
**Б.** 2
**В.** 3

**5 Які цуд не змаглі здзейсніць вучні?**



**А.** ацаліць сляпога
**Б.** выгнаць злога духа
**В.** уваскрасіць памерлага

**6 Чаму язычніца не адступала ад Езуса і крычала да Яго?**



**А.** таму што ў ёй быў злы дух
**Б.** была сляпая і жадала аздаравіцца
**В.** прасіла аздаравіць дачку

**7 З кім Езус размаўляў падчас перамянення?**



**А.** Майсей і Ілля
**Б.** Абрагам і Майсей
**В.** Ілля і Абрагам

**8 Чаму фарысеі не дазвалялі Езусу ацаліць чалавека з усохлай рукой?**



**А.** таму што была субота
**Б.** таму што называў сябе Месіяй
**В.** таму што гэта адбылося ў сінагозе

**9 Што Езус зрабіў з неўраджайнай смакоўніцай?**



**А.** загадаў, каб на ёй з'явіліся плады
**Б.** загадаў, каб яна засохла
**В.** пакінуў як была

**10 Які быў апошні цуд Езуса перад катаваннем?**



**А.** прадказанне адрачэння Пятра
**Б.** прадказанне здрады Юды
**В.** ацаленне слугі першасвятара

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

*Падрыхтавала*
***Laліта Арлоўская***

# Палікарп Смірнскі




– Як яго там клікалі? Мульціакунь? Гіперлешч?

– Палікарп.

– Дакладна.

Гэткім жартам распачынаем знаёміцца з наступным пасля св. Ігнацыя Антыёхскага Айцом Касцёла – св. Палікарпам Смірнскім.

### Што мы ведаем пра Палікарпа?

Палікарп Смірнскі быў адным з найбольш значных Айцоў Касцёла апостальскага перыяду. Гісторыя, на жаль, хавае ад нас дакладныя даты яго жыцця. Верагодна, ён нарадзіўся дзесьці паміж 70 і 80 гг. I ст. і прыняў мучаніцкую смерць у 50-х ці 60-х гадах II ст. Аднак вядома, што Палікарп быў біскупам Смірны – горада, які цяпер называецца Ізмір і знаходзіцца ў Турцыі, на заходнім узбярэжжы паўвострава Малая Азія. Ён кіраваў там касцельнай супольнасцю, штодзень абвяшчаючы Евангелле і фармуючы хрысціян паводле Духа Хрыста. Яму аднаму з нямногіх пашчасціла насіць пачэсны тытул апостальскага вучня, бо яго настаўнікам быў сам св. Апостал Ян. Таксама вядома, што Палікарп падчас прыпынку ў Смірне сустрэўся са святым мучанікам Ігнацыем, біскупам Антыёхскім, якога пад канвоем вялі ў Рым. Падчас наступнага прыпынку, ужо ў Траадзе, Ігнацый напісаў і адправіў пасланне, адрасаванае біскупу Палікарпу. Як бачым, Палікарп быў чалавекам вялікага аўтарытэту, прызнання і павагі.

### Праўдзівы сведка веры

Калі прыйшоў час пераследу веры, і Палікарпа, і шмат іншых кіраўнікоў мясцовых Касцёлаў арыштавалі і збіраліся за вызнанне хрысціянскага вучэння забіць на арэне. Палікарп быў тады ўжо вельмі сталым чалавекам. Захаваўся кранальны аповед пра яго мучаніцкую смерць.

**Палікарпа, 80-гадовага старца, прывялі на стадыён і прысудзілі да пакарання смерцю як хрысціяніна, г.зн., паводле меркавання язычнікаў, як прапаведніка вучэння, што “разбурае” існуючы лад жыцця.**

Аднак яму далі шанец перайсці ў стары язычніцкі культ (Палікарп нарадзіўся ў хрысціянскай сям’і і ніколі не быў язычнікам) і такім чынам выратаваць сваё жыццё. Таму імператарскі чыноўнік, каторы павінен быў выканаць пакаральны прысуд, даў яму магчымасць захавання жыцця, загадваючы праклясці “бязбожнікаў”. Кім былі тыя “бязбожнікі”? У вачах язычнікаў “бязбожнікамі” лічыліся хрысціяне, бо яны не хадзілі ў язычніцкія храмы, не прыносілі ахвяры і не вялі рэлігійнае жыццё так, як гэта рабіла большасць грамадства.

Чытач цяпер, напэўна, вельмі здзівіцца, бо Палікарп усё ж такі прыняў прапанову чыноўніка праклясці “бязбожнікаў”! Як гэта так?! Вялікі святы, маральны аўтарытэт Касцёла, вельмі шанаваны біскуп – і здрадзіў Хрысту? Не, не здрадзіў! Палікарп павярнуўся да трыбун, дзе сядзелі тыя, якія пакланяліся язычніцкім ідалам, і заявіў, што менавіта яны, а не хрысціяне, памыляюцца і не ведаюць сапраўднага Бога. Тады раз’юшаны свабодай духу і адсутнасцю страху перад смерцю састарэлага біскупа імператарскі чыноўнік выкрыкнуў: “Праклянi Хрыста, і тады ўратуеш сваё жыццё!” На што Палікарп са стаічным спакоем адказаў, што свядома служыў гэтаму добраму Богу больш за 70 гадоў і нічога дрэннага Ён яму не зрабіў. Дык навошта тады Яму адплочваць злом за дабро?

Няцяжка здагадацца, што адбылося далей…

Дарэчы, падчас выканання смяротнага прысуду ўсе прысутныя сталіся сведкамі цуду. Прывязанага да падпаленага стогу сена Палікарпа не ахапіў агонь. Таму адзін з салдат працяў яго кінжалам, і так Палікарп аддаў душу Богу. Сталася гэта 23 лютага 155 г. З якім словам асацыюецца ў нас 23 лютага, дзень літургічнага ўспаміну святога? Правільна, са словам “абаронца”. Біскуп Палікарп стаў сапраўдным абаронцам веры аж да смерці. Сёння мы б таксама сказалі – сапраўдным героем хрысціянства.

### Творы Палікарпа

Са шматлікіх пасланняў Палікарпа Смірнскага да суседніх Касцёлаў захавалася толькі адно, з якім ён звярнуўся да супольнасці філіпянаў. У ім біскуп заклікаў вернікаў: “Давайце заўсёды будзем з Тым, Хто з’яўляецца нашай надзеяй і задаткам нашай справядлівасці, Езусам Хрыстом, Які ў сваім целе панёс нашыя грахі на дрэва, “Які не ўчыніў граху, і не было падману ў вуснах Ягоных”. Ён дла нас, каб мы жылі з Ім, усё выцярпеў. Таму давайце станем пераймальнікамі яго цярплівасці, і калі мы церпім за Яго імя, тады давайце славіць Яго. Бо гэта ўзор, які Ён даў нам у сабе, і мы ў гэта паверылі”.

### Ці не засталося больш ніякіх цікавых фактаў з жыцця Палікарпа?

Правераныя крыніцы падаюць, што прыблізна ў 154 г. біскуп Смірнскі адправіўся з афіцыйным візітам у Рым для вырашэння з біскупам гэтага горада, Папам Анікетам, розных касцельных спраў. Аднак галоўным пытаннем было ўзгадненне даты святкавання Вялікадня. Нават сёння, у XXI ст., хрысціяне дастаткова рэдка святкуюць Пасху ў адзін дзень. Тады ж у рымскім Касцёле Уваскрасенне Пана адзначалася ў першую нядзелю пасля 14 дня габрэйскага месяца нісан, а на Усходзе – у самы гэты дзень, 14 нісана. На жаль, справа так і засталася нявырашанай. Кансэнсусу не знайшлі. Кожны з біскупаў застаўся пры сваім меркаванні. Нягледзячы на гэта, Анікет і Палікарп захавалі касцельную еднасць, а на знак пашаны да Палікарпа Анікет дазволіў яму цэлебраваць Эўхарыстыю ў сваім Касцёле. Расколу не адбылося, і за гэта мы дзякуем Богу!

Захаваліся таксама сведчанні таго, што падчас падарожжа дадому Палікарп сваімі прамовамі пераканаў шмат ерэтыкоў і адступнікаў, галоўным чынам, маркіянітаў і валентыніянаў, вярнуцца да сапраўднага Хрыстовага вучэння. Таму, нават нягледзячы на дыпламатычнае фіяска ў справе даты святкавання Вялікадня, Палікарп праявіў сябе як вялікі евангелізатар і сапраўдная надзея для тых, хто пакінуў супольнасць Касцёла.

### Характарыстыка эпохі Палікарпа

Свабода ад страху перад смерцю, з якой Палікарп развітаўся з зямным жыццём, – гэта тое, што асаблівым чынам характарызавала тагачасных хрысціян, перакананых, што жыццё вечнае нашмат важнейшае за дабрабыт гэтага свету, бо яно выходзіць па-за яго межы. Па гэтай прычыне першыя хрысціяне былі гатовыя не толькі аддаць сваё жыццё, але зрабіць гэта з вялікім спакоем у душы, з унутранай раўнавагай, з упэўненасцю, што, паміраючы за веру, яны не трацяць жыццё. Безумоўна, такая свабода ад прывязанасці да часовых і прамінальных рэчаў асаблівым чынам выяўляецца ў мучаніцкай смерці, як гэта было ў выпадку св. Палікарпа. Але, больш за тое, яна пранізвае ўсё жыццё чалавека, які даверыўся Богу. Па гэтай прычыне ў тэкстах Айцоў Касцёла I ст. адным з галоўных настаўленняў, скіраваным да хрысціян, якое, быццам літанія, паўтаралася ўвесь час, быў заклік вытрымаць цярпенні, з даверам і спакоем перанесці ўсе нягоды.

Мучанікі I ст. не баяліся цаны, якую трэба было заплаціць за тое, каб заставацца добрымі людзьмі. Яны не скардзіліся, што за іх справядлівасць, адкрытасць, дабрыню, спагадлівасць, лагоднасць церпяць і паміраюць. Бо Хрыстус аддаў сваё жыццё менавіта таму, што бязмежна ўзлюбіў нас. Калі Ён так шмат цярпеў за нас, чаму ж мы тады павінны абмяжоўваць нашу дабрыню толькі таму, што спазнаём так шмат болю, так шмат пакут…

Св. Палікарп Смірнскі сваім навучаннем і мучаніцкай смерцю цудоўна сведчыць, што вернасць Хрысту вызваляе чалавека ад страху перад смерцю і цярпеннем.

**кс. Павел Эйсмант**

# Дыяцэзіяльная сустрэча святароў і кансэкраваных асобаў прайшла ў Паставах

**9 лютага ў касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Антонія Падуанскага ў Паставах адбылося першае ў новым, 2023 годзе агульнае спатканне біскупа Алега Буткевіча са святарамі, законнымі братамі і сёстрамі Віцебскай дыяцэзіі.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Такія духоўныя сустрэчы з пастырам дыяцэзіі адбываюцца кожны месяц, каб супольна перажываць спатканне з Езусам.

Прыехаўшы на месца, святары адразу маглі вырашыць розныя пытанні з курыяльнымі супрацоўнікамі, выдавецтвамі “Pro Christo” і “Дыялог”, набыць розную літаратуру і часопісы. Затым усе накіраваліся на канферэнцыі.

Для манаскіх сясцёр а. Анджэй Юхневіч OMI распавядаў пра стрэс і адпачынак. Святар даў некалькі прапаноў для лепшага адпачынку: правільнае дыханне, медытацыя над Божым словам, шпацыр, ароматэрапія і спа.

Для святароў прамаўляў афіцыял Біскупскага суда Віцебскай дыяцэзіі кс. Аляксей Ляшко. Ён закрануў тэму не духоўную, але больш практычную ў святарскім служэнні – пра інстытут сям’і і касцельнае права. Кс. Аляксей прывёў статыстыку: у Беларусі з заключаных за год 59 тыс. грамадзянскіх сужэнстваў 40 тыс. скасавана. А гэта 68 %. На жаль, амаль падобная статыстыка з сужэнствамі, заключанымі сакраментальна. Біскупскі суд у адказ на пазоўныя скаргі вернікаў прызнае несапраўднымі каля 75 % шлюбаў. Святар звярнуў асаблівую ўвагу на патрэбу падрыхтоўкі маладых людзей да гэтага сакраманту.



Пасля канферэнцый адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. У гэты час шматлікія ўдзельнікі скарысталіся магчымасцю споведзі.

Святую Імшу, якую ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, канцэлебравалі Генеральны вікарый кс. канонік Францішак Кісель, канцлер курыі кс. канонік Віктар Місевіч і дзекан Пастаўскі кс. Павел Самсонаў.

Падчас казання біскуп Алег узняў тэму веры і духоўнасці і заахвоціў задумацца: наколькі наша вера ёсць моцная і ці развіваем мы яе? Бо “вера ёсць чымсьці, што мы здабываем, і нельга на гэтым затрымлівацца”.

9 лютага таксама споўніліся чатыры гады са дня смерці кс. Казіміра Акушкі, які служыў у Віцебскай дыяцэзіі. Сабраты ў святарстве ахінулі сваёй малітвай душу памерлага святара.

На заканчэнне сустрэчы былі абвешчаныя найбліжэйшыя планы ў дыяцэзіі. Ардынарый нагадаў, што 18 лютага ў Росіцы адбудуцца ўрачыстасці з нагоды 80-й гадавіны трагедыі, 29 красавіка ў Браславе сёстры-эўхарысткі адзначаць 100-годдзе заснавання кангрэгацыі, а ў 2024 годзе Віцебская дыяцэзія адзначыць 25-годдзе свайго існавання.

# Борьба алкоголика с болезнью. Реальное свидетельство

**Алкоголика сравнивают с человеком, который бегает перед движущимся транспортом. Когда у меня было восемь лет физической трезвости, я понял, что этим и занимаюсь в прямом смысле слова.**

Я "советский" алкоголик, хронический, запойный. В студенческие годы я совершенно спился. Это был тяжёлый период без Бога и со стаканом. Тогда я часто сидел в какой-то грязной пивной, с какими-то грязными людьми. Кончилось всё тем, что в определённый момент я начал думать, читать, мечтать о самоубийстве.

Я был крещёным только формально, но с крёстным отцом мы общались. В какой-то момент мне стало совсем плохо, и я позвонил ему, рассказал о своём решении уйти из жизни. Он пригласил меня к себе, обещая рассказать, как лучше это сделать. Мы выпили чай, поговорили. Он прочитал какую-то короткую молитву, я понял, что пора уходить.

**Он меня спас, просто предложив чай.**

На следующий день я снова позвонил крёстному и стал извиняться. Мне было ужасно неудобно, думал, "от меня же несло водкой, и всё это видела его жена". На это он только ответил, что я вёл себя адекватно, а жена ничего не заметила. Он похвалил меня за то, что я пришёл, и сказал звонить, если ещё будет плохо.

В этом мраке меня познакомили с одной девушкой, конечно, я в неё влюбился. Она была настоящим светом для меня. В то время церковь ещё была под запретом, но особого давления со стороны властей не было. Она решила поехать к какому-то старцу в монастырь, и я увязался за ней. В монастыре мне было всё неприятно, был пьяный, но неприятно было не от этого, просто не любил церковь.

Я исповедовался какому-то священнику в своих грехах, а он ушёл, пришёл другой, стал что-то читать на непонятном языке. Всё было не так. Но после таинств со мной произошло духовное пробуждение. Ушла тяга к алкоголю. И ушла на годы. В то время я стал читать Евангелие, жить духовной жизнью. Эта ремиссия продолжалась несколько лет. Но моя болезнь все ещё была со мной. И вдруг мне начало становиться хуже. С каждым днём я становился всё раздражительнее. В церкви люди были уже не те, священники стали недуховные и так далее. При этом мне хотелось совершать невероятные духовные подвиги.

Раньше я вскакивал с похмелья и бежал в магазин. Мне было физически больно, если этого не сделать. А тогда вскакивал и бежал в церковь, мне там становилось легче. В принципе, это было одно и то же. Так проявлялась болезнь.

Чтобы как-то снять напряжение, я начал бегать между машин. В то время по пути на работу мне нужно было преодолеть внушительный проспект с большим потоком, я перебегал его, мог делать это даже несколько раз за день. Мне это доставляло странное удовольствие.

Когда я решил осуществить свою идею непрестанной молитвы, по дороге случайно встретил своего бывшего одноклассника и уже тоже бывшего собутыльника. Мы поговорили, я высказал своё намерение, а он предложил отпраздновать мой подвиг. Мы решили немного выпить. Очнулся я только через полторы недели, и за это время полностью упал в своих глазах. Мне казалось, что я потерял свою заслуженную "святость" и не мог понять, как это произошло, я же только выпил.

Мой духовник отлучил меня от причастия, но вопреки ожиданиям, это время стало для меня самым счастливым. Я чувствовал, что Бог как бы обхватил меня и не отпускал. В то время я часто гулял, работал, мне было хорошо на молитве. Но когда время отлучения закончилось, закончилось и счастье, и ремиссия на религиозной почве. Позже я узнал, что люди часто перестают пить на религиозной почве, они заменяют это другим наркотиком. В моём случае это была религиозность.

В группу АА (анонимные алкоголики) я пришёл осенью 1999 года и с тех пор остаюсь трезвым. Первое время я не признавал программу АА, просто ходил туда. В тот день в первый раз на собрание пришла и одна женщина. Поскольку я всего стеснялся, мы держались вместе, поддерживая друг друга. Через три недели она пропала. Я подумал, что она ушла в другую группу, возможно, у неё изменилось расписание или ещё что-то произошло. Но через месяц она появилась в ужасном состоянии. Она сорвалась. В день, когда она пришла снова, мы поговорили, я предложил ей чай.

Сейчас, когда прошло уже много лет, она напомнила мне эту историю.

**Она сказала: "После срыва я хотела уйти вообще, но ты предложил мне чай и сказал – приходи".**

Получается, тогда я спас её, как когда-то мой крёстный отец спас меня. Теперь я знаю, мне только кажется, что я должен совершать подвиги, но этого никому не надо. На самом деле от меня много не требуется, мне нужно просто подойти к новичку или к сорвавшемуся и пригласить его на чай.

На девятом месяце трезвости я поехал в реабилитационный центр. Это был хороший центр, основанный на программе 12 шагов. Программу я тогда не признавал и думал, что сейчас всем покажу, как нужно выздоравливать, но потерял смысл своего пребывания там уже на половине срока. Хотел уехать и только чудом остался. А двое ребят через несколько дней все-таки ушли. Тогда я жалел, что не уехал с ними. Через полтора часа другие пациенты сказали мне, что те двое уже пьют на станции. Той ночью я лежал весь потный от страха. На следующий день я перестал возмущаться, всё слушал, не общался с теми, кто не хотел выздоравливать. А когда вышел, сразу нашёл наставника и начал работать по шагам.

На десятом году трезвости у меня во рту оказался алкоголь. На самом деле тогда я думал, что уже выздоровел. Меня спасло тогда только то, что я вспомнил, как сидел в квартире у отца, смотрел в его глаза, уже белые от алкоголя. В его квартире ничего не было, всё вокруг было грязное, чёрное, настоящий ад. Я не хотел закончить как отец. Выплюнул алкоголь, промыл рот и ушёл из той компании. Но совесть мучала, и пришлось позвонить наставнику. Он не стал меня отчитывать. Первым делом успокоил, чтобы я окончательно не сорвался, и предложил подумать, каким образом это могло произойти, почему я оказался в том месте. Я понял, что шёл к этому уже некоторое время.

**Дело в том, что, когда появляется злоба к окружающим меня людям, это значит, что я иду к бутылке.**

У меня уже приличный срок трезвости, и теперь я знаю, что точно не исцелился. Моя задача сейчас не закрывать глаза на симптомы, которые периодически всё ещё проявляются. Потому что если закрыть глаза, то симптомы не исчезнут, их будет становиться больше. Так что у меня есть два пути: или я прорабатываю это по программе АА, или делаю вид, что это произошло не со мной, выкидываю это из сознания. Но если выбрать второй путь, болезнь начнёт прогрессировать, постепенно набирая обороты, пока меня не убьёт. Вот такая у меня болезнь – алкоголизм.

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

**Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"**

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**



### *Хвала Хрысту!*

*Паважаны **ксёндз Аляксей Асон!***

*Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння (10 лютага) і з імянінамі (17 лютага)! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божага благаславення на выращэнне ўсіх душпастырскіх спраў, апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка!*

***З павагай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Новым Пагосце***

### *Хвала Хрысту!*

*Вельмі ўдзячна шаноўнаму кс. Віктару Місевічу і супрацоўнікам рэдакцыі за віншаванні з нагоды Божага Нараджэння і Новым годам! Была вельмі ўзрушана цёплымі словамі, маральнай падтрымкай. Хай Нованароджаны Хрыстус адорыць Вас сваімі ласкамі!*

*Дарэчы, усе Вашы віншаванні, якія атрымліваю не адзін год, захоўваю як самую каштоўную рэліквію!*

***З павагай, Гэлена Канчанін***

### *Хвала Хрысту!*



*Шчырыя віншаванні і найлепшыя пажаданні дасылаем нашаму **ксяндзу-пробашчу Віктару Сініцкаму SCJ** з нагоды імянінаў і юбілею, якія ён адзначае 25 лютага!*

*Няўмольна, хутка бяжыць час. Бог дае нам магчымасць сустракаць круглыя даты пройдзенага жыцця. 50 гадоў – прыгожая дата, прыгожы ўзрост. У Вас, шаноўны ксёндз Віктар, у запасе ўжо веды, вопыт і яшчэ шмат сілы для ажыццяўлення задуманага, для руплівага служэння Богу і людзям.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, ксёндз Віктар, здароўя, міру і дабра! Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом і радасцю, а ўсе планы паспяхова рэалізуюцца!*

*Дзякуем Вам за самаахвярнае служэнне ў нашай парафіі, за добрае і адкрытае сэрца!*

*Няхай наш Нябесны Айцец шчодра ўзнагародзіць Вас усімі патрэбнымі ласкамі!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына)***

### *Хвала Хрысту!*

*18 лютага ксёндз-пробашч парафіі святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НМП у Паставах **Вадзім Прасяной** адзначае 40-гадовы юбілей.*

*Шаноўны ксёндз-пробашч Вадзім! З нагоды Дня нараджэння мы выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за Вашу натхнёную працу на Божай ніве, за прыгажосць душы, за ўвагу да кожнага верніка нашай парафіі!*

*За амаль трынаццаць гадоў служэння ў Паставах Вы атрымалі нямала духоўных пладоў, адорвалі добрасумленнай святарскай паслугай шматлікіх вернікаў, развівалі ў нас атрыманыя ад Пана Бога таленты. Пан Бог прамаўляе да нас Вашымі вуснамі. Цешымся з таго, што Вы з намі дзеліцеся досведам свайго жыцця, дапамагаеце ўзрастаць у веры, заўсёды падтрымліваеце і натхняеце.*

*Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, хай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца! Заўсёды памятаем Вас у малітвах!*

***Парафіяне з Паставаў***

## Фільм “Харысты” – гісторыя перамянення сэрцаў

**Ці можа музыка аказваць выхаваўчы і тэрапеўтычны эфект? Можа, калі ёсць настаўнік, які верыць у тое, што робіць, у тых, каго навучае, і ўкладае ў справу не толькі намаганні, але і ўсё сваё сэрца. Менавіта пра гэта фільм “Харысты”.**

Сюжэт кінастужкі разварочваецца ў Францыі ў 1949 годзе. Добры, вясёлы, таленавіты Клеман Мац'ё траціць усё, што мае. Кампазітар і настаўнік музыкі, ён не змог пабудаваць кар'еру, не дасягнуў поспеху ў творчасці, не знайшоў кахання. Клеман складвае свае ноты і кажа, што ніколі больш да іх не вернецца.

Расчараваны, сумны і разгублены Клеман Мац'ё згаджаецца на вялікую авантуру – едзе працаваць выхавальнікам у інтэрнат. Сам ён лічыць, што жыццё скончылася і горш усё роўна ўжо не будзе.

“Дно сажалкі” – назва ўстановы, якая кажа сама за сябе. Там жыве шэсцьдзясят хлопцаў з цяжкімі лёсамі і характарамі. Свет іх закрыты ў інтэрнаце, дзе адзіны метад выхавання – “акцыя-рэакцыя”. Гэта значыць, што за кожную правіннасць наступае пакаранне. Пры гэтым самае жорсткае: дні ў карцары, прыніжальныя працы і іншае. Выхавальнікаў зусім не цікавяць ні лёс, ні пачуцці, ні таленты хлопцаў.

Гэта рэчаіснасць, куды трапляе Клеман Мац'ё. Быццам чалавек з іншай планеты, новы настаўнік здзіўляе ўсіх жыхароў інтэрната. У ягоным сэрцы шмат дабрыні, міласэрнасці, рамантызму. У кожным хлопцу ён убачыў не толькі агрэсію, злосць і жаданне зрабіць дрэннае, але і чалавека з цяжкім лёсам, адкінутага і грамадствам, і нават выхавальнікамі.

“Заўсёды можна пачаць усё ад пачатку”, – кажа галоўны герой. Гэтыя словы ён адрасуе не толькі сваім выхаванцам, але і сабе. Клеман вырашае дастаць свае ноты і стварыць хор.

І адбываецца дзівоснае перамяненне. На закрытых, жорсткіх хлопцаў уздзейнічае музыка. У іх з'яўляецца мэта, цікавасць да творчасці і бляск у вачах. Клеман Мац'ё становіцца для выхаванцаў не толькі настаўнікам, але таксама сябрам і дарадцам.

Дзякуючы музыцы мяняюцца ўсе жыхары “Дна сажалкі”: і выхаванцы, і выхавальнікі. Яны становяцца добрымі, удзячнымі, цікаўнымі да мастацтва.



Кінастужка напоўненая цудоўнымі музычнымі творамі кампазітара Бруно Куле. Без перабольшвання можна сказаць, што яна стварае агульную цёплую атмасферу і аздабляе фільм.

Нельга не адзначыць цудоўную ігру акцёраў. У асноўным гэта дзеці. Кожны з іх выдатна справіўся з роллю. А натхнёныя спевы хору выклікаюць слёзы замілавання.

Здавалася б, у кінастужцы няма ні варушняку, ні спецэфектаў, ні займальнага сюжэту. Але, гледзячы яе, кожны чалавек можа парадавацца, пасмяяцца, крыху пасумаваць і, безумоўна ж, адчуць цудоўнае дзеянне музыкі ў жыцці.

***Вікторыя Філіпенка***

## План правядзення V Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання

**“Карытас” Віцебскай дыяцэзіі сардэчна запрашае да ўдзелу ў V Дыяцэзіяльным конкурсе на веданне Святога Пісання дзяцей з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі, а таксама гасцей з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Каардынатарам конкурсу з'яўляецца сястра Дар'я Галубкова OV.**

Удзельнікі конкурсу, як заўсёды, будуць падзеленыя на дзве ўзроставыя катэгорыі: першая катэгорыя – дзеці ад 9 да 11 гадоў уключна (могуць быць маладзейшыя); другая катэгорыя – дзеці ад 12 да 14 гадоў уключна.

Асновай конкурсных матэрыялаў у 2023 годзе будзе змест наступных кніг Бібліі: Кніга Эстэры (Есфирь) са Старога Запавету, Дзеі Апосталаў (Деяния Апостолов) з Новага Запавету. Пытанні конкурсу будуць гучаць на беларускай мове. У выпадку імёнаў, назваў і паняццяў, якія моцна адрозніваюцца ў беларускамоўнай і рускамоўнай версіях Святога Пісання, яны будуць пададзеныя ў двух варыянтах. Час на выкананне задання – 45 хвілін.

Конкурс складаецца з трох этапаў: парафіяльнага, дэканальнага і дыяцэзіяльнага.

Правядзенне першага (парафіяльнага) этапу запланавана на 04 (05) сакавіка 2023 г. Для ўдзелу ў конкурсе парафіі неабходна даслаць арганізатарам па электроннай пошце запоўнены фармуляр для запісу да 25 лютага 2023 г. уключна.

Дэканальны этап адбудзецца 18 (19) сакавіка 2023 г. У дыяцэзіяльны (фінальны) этап праходзяць па два ўдзельнікі з кожнай катэгорыі (усяго – чатыры удзельнікі) ад дэканата, якія атрымалі найбольшую колькасць балаў. У выпадку, калі ў нейкім дэканаце не набярэцца адпаведнай колькасці фіналістаў, яны будуць дабраныя з ліку удзельнікаў з іншых дэканатаў, якія занялі трэцяе месца ў дадзеным этапе.

*Увага!* Для Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі гэты этап будзе выглядаць інакш, у залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў. Магчыма, фіналісты будуць вылучаныя з кожнай парафіі, якая прыме ўдзел.




Фінал конкурсу запланаваны на другую палову красавіка 2023 года ў Віцебску (пасля Вялікадня). Прыкладная колькасць фіналістаў – да 50 чалавек.

Пытанні і прапановы, звязаныя з конкурсам, можна накіроўваць на паштовую скрыню *vitebsk.caritas@gmail.com*

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Хачу падзякаваць арганістцы Іне Сапун і ўсім харыстам браслаўскага касцёла Нараджэння Маці Божай за цудоўную музыку і спеў! Цяпер у хоры спявае многа ўдзельнікаў, асабліва мужчын і дзяцей. Кажуць, хто моліцца спевам, той двойчы Пана Бога хваліць.*

*Памятаю, як у канцы 50-х гадоў XX стагоддзя ў мосарскім касцёле іграў і спяваў арганіст Сварцэвіч і была спявачка Янка Саковіч. Моцна ўражваў і дзяцей, і дарослых спеў “Wsród nocnej ciszy”. Вечны супакой дай ім, Пане!*

***Леанарда, чытачка “Каталіцкага Весніка”***

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка” выказвае шчырыя спачуванні ўсім блізкім і родным святой памяці Ядвігі Жолнер з в. Муцеўшчына Мядзельскага раёна Мінскай вобласці ў сувязі з яе адыходам у вечнасць.*

*Спадарыня Ядвіга была актыўным ахвярадаўцам нашай газеты, часта дасылала лісты ў рэдакцыю. Разумеем, што яе адыход з'яўляецца нагодай для смутку ўсіх, хто яе ведаў, аднак мы памятаем, што жывём усе ў Пану і для Яго. Мы верым, што смерць святой памяці Ядвігі – гэта пераход у іншую, лепшую рэчаіснасць. Няхай Божае Слова, якое яна так любіла і шанавала ў сваім жыцці, будзе для яе сапраўднай узнагародай у небе.*

*Кожны месяц кс. Віктар Місевіч, галоўны рэдактар “Каталіцкага Весніка”, адпраўляе Св. Імшу за ўсіх жывых і памерлых ахвярадаўцаў.*

*Вечны адпачынак дай ёй, Пане, а святло вечнае няхай ёй свеціць. Няхай адпачывае ў супакоі вечным. Амэн.*

# На самой справе ці на самай справе?

## Як павінна быць па-беларуску?

**Пытаннем, вынесеным у загаловак, зацікавілася чытачка "Каталіцкага весніка", якая абазначыла сябе ў лісце да аўтара нашай моўнай старонкі вельмі сціпла: Л.М. (Мядзел). Зрэшты, не мае значэння, як чалавек сябе ідэнтыфікуе ў камунікацыі. Куды важней, якое пытанне яго цікавіць, што выклікае пэўную праблему. Дык вось Л.М. заўважае сярод іншага: "Напэўна, маё пытанне не вельмі важнае. Напэўна, не так часта мы сутыкаемся на практыцы з гэтым словам... Але, калі можна, усё ж хацелася б ведаць: ці абодва варыянты правільныя, гэта значыць, яны – варыянты, ці правільная толькі адна форма..."**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*



Адразу хацелася б выказаць падзяку за пытанне і за скрупулёзнае стаўленне да нашай мовы. Бо каб заўважаць такія нюансы, трэба насамрэч добра арыентавацца ў моўным матэрыяле, сапраўды цікавіцца беларускай мовай і добра ў ёй разбірацца. І не варта трактаваць падобныя моўныя факты як "не вельмі важныя". Бо калі мы гаворым пра культуру маўлення, калі мы сапраўды імкнёмся гаварыць правільна, прыгожа, то ніякіх дробязяў, не важных пытанняў проста не можа быць.

А праблема, нясмела ўзнятая нашай шаноўнай чытачкай, насамрэч важная. І я не пагадзіўся б з выказаным ёй меркаваннем, што мы "не так часта сутыкаемся на практыцы з гэтым словам". Якраз наадварот: канструкцыя надзвычай ужывальная, бо можа выкарыстоўвацца па сутнасці ў любой маўленчай сітуацыі. Таму паспрабуем разабрацца.

**На самай справе** – гэта фразеалагізм. І мы сапраўды часта і чуем, і бачым дадзеную лексічную адзінку з націскам на канчатку займенніка: ***На самОй справе** будынак упрыгожвалі не толькі вучні, дапамагалі і іх бацькі*; *Ніхто не ведае, як было **на самОй справе***; *Нікога з нашых **на самОй справе** там не было*. Можна меркаваць, што націск на канчатак займенніка ў дадзеным устойлівым спалучэнні пераносіцца менавіта з найлепшых памкненняў: надаць канструкцыі больш беларускую форму, паказаць адрозненне ў вымаўленні ад адпаведнага рускага эквівалента – **на самом деле**.

А іншае тлумачэнне можа быць, на наш погляд, абгрунтаванае ўжо больш сур'ёзным падыходам, калі ў якасці пачатковай формы займенніка разглядаецца слова **сам**. Але справа ў тым, што тут такой зыходнай формай з'яўляецца займеннік **сАмы** (!) І гэты факт акурат і рэгулюе правільнасць ужывання ў нашай мове ўсяго фразеалагізма. Займеннік **сАмы** мае, паводле "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", аж пяць значэнняў і яшчэ рэалізуе сем дадатковых адценняў. Таму і сапраўды няцяжка заблытацца ў такім лінгвістычным багацці). І калі мы прымаем пад увагу слова **сАмы**, то ўсё становіцца на сваё месца. Напрыклад: ***На сАмай** сцежцы ляжалі нечыя боты*; *Студэнты хадзілі падчас практыкі **па сАмай** вялікай вёсцы калгаса і распытвалі жыхароў*; *Малады чалавек быў сканцэнтраваны **на сАмай** важнай цяпер для яго місіі*.

Форма **самОй** не мае ў беларускай мове фразеалагічна абумоўленага значэння, ужываецца ў зусім іншых акалічнасцях: ***СамОй** цёткі ў хаце не было*; *Дзяўчыне хацелася **самОй** расказаць усё бацькам*; *Маці **самОй** давялося ўсё рабіць*. Тут, як мы бачым, займеннік мае значэнне канкрэтнай асобы, якая з'яўляецца выканаўцам дзеяння. І ў гэтым менавіта і заключаецца розніца, калі мы гаворым пра правільную націскную форму.

Такім чынам, адказваючы на пытанне нашай чытачкі з Мядзела спадарыні Л.М., канстатуем, што правільна па-беларуску будзе **на сАмай справе**. Гэтай формы і мусім трымацца.

# Мова, якая аб'ядноўвае

**Як і для большасці дзяцей, пэўны час беларуская мова была для мяне замежнай. Я нічога не разумела, не ўмела вымаўляць словы, зусім яе не любіла.**

Я расла ў рускамоўным асяроддзі, а ў касцёле доўгі час усё было па-польску. Для нас, першакамунійных дзяцей, была асобная Імша на беларускай мове, на якую трэба было хадзіць. І падручнікі па рэлігіі ў нас былі па-беларуску. Памятаю, як летам пасля маёй першай Камуніі я працягвала актыўна хадзіць на рэпетыцыі хору, чытаць чытанні, і ўжо ў пяты клас школы я прыйшла з выдатнымі ведамі па беларускай мове. Вось так у касцёле я вывучыла мову, якую цяпер лічу сваёй роднай.

Потым былі пілігрымкі ў Будслаў, дзе ніхто не маліўся па-польску, як звычайна было ў нас, таму даводзілася зноў вучыць малітвы. І тады я зразумела Імшу, адкрыла для сябе сэнс шмат якіх малітваў. Нягледзячы на тое, што я з дзяцінства добра валодала польскай, шмат чаго заставалася для мяне незразумелым. Так яшчэ ў школьныя гады я вырашыла, што маліцца трэба не на той мове, на якой навучылі, а на той, якую разумееш.

Я лічу, што мовай Касцёла ў Беларусі павінна быць беларуская. Ад моманту адраджэння каталіцкіх структур мінула ўжо дастаткова часу, вырасла цэлае пакаленне, таму перайсці на беларускую становіцца ўсё лягчэй. Мы маем перакладзеныя кнігі і дакументы, хоць бачна, што наперадзе яшчэ шмат працы. Ужо відавочная тэндэнцыя да таго, што дзеці і іх бацькі адыходзяць ад польскай мовы, бо проста не разумеюць яе.

Калі глянуць па-за межы Беларусі, то можна заўважыць, што шмат дзе пастаянна адпраўляюцца Імшы па-беларуску. Гэта сведчыць пра тое, што малітва на беларускай мове аб'ядноўвае людзей па ўсім свеце.

У прадмове да "Дудкі беларускай" Францішак Багушэвіч піша: "Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзеная". Цяжка не пагадзіцца з гэтым. Дык шануйма нашую мову і захоўвайма яе!

***Яна Чайко***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# “Кожнае добрае слова для нас – гэта сапраўдная падтрымка!”

## Як свецкія з “Радыё Марыя” супрацоўнічаюць са святарамі

**Каталіцкае “Радыё Марыя” гучыць у Беларусі ўжо больш за шэсць гадоў – першая трансляцыя ў інтэрнэце адбылася 1 лістапада 2016 года. Праца радыё заснаваная перадусім на ініцыятыве свецкіх, але наколькі лёгка свецкім працаваць у касцельных структурах?**



Слухаць беларускае “Радыё Марыя” можна праз дадатак для мабільных прыладаў, на сайце, а таксама апошнім часам атрымаў развіццё і ютьюб-канал. Такім чынам з фармата вэб-радыё “Радыё Марыя” пераўтвараецца ў паўнавартаснае медыя. У радыёперадачах вернікам распавядаюць пра жыццё Касцёла, штодзённа транслююць святыя Імшы, што неабходна для старэнькіх ці хворых людзей, ёсць шмат агульнакультурных, пазнавальных і нават забаўляльных праграм, разважанні над Божым словам, малітвы, ток-шоу. Дзякуючы гэтаму каталіцкае веравучэнне і хрысціянскія каштоўнасці могуць быць дасяжныя кожнаму ў любы момант яго жыцця і ў любым месцы планеты.

“Радыё Марыя” – гэта перадусім валанцёрскі праект, у якім кожны можна знайсці справу для сябе. Праграмным дырэктарам радыё і духоўным апекуном у Беларусі з’яўляецца ксёндз Аляксандр Фаміных, а свецкім дырэктарам – Яўгенія Найдовіч. З ёю мы і паразмаўлялі пра тое, як працуецца свецкім вернікам у касцельных структурах.

“Ёсць цэлы шэраг святароў, каторыя ставяцца да ініцыятывы свецкіх, як да новага сродку евангелізацыі і годнай справы. Калі святары разумеюць, што тое, што адбываецца на “Радыё Марыя”, – гэта самая сапраўдная евангелізацыя, яны да гэтага ставяцца адкрыта, ніколі не адмаўляюць у супрацоўніцтве, з радасцю падтрымліваюць нас. Калі ёсць усведамленне, што мы робім і што мы робім гэта супольна, то няма перашкодаў, а ёсць падтрымка і адкрытасць”, – распавяла суразмоўца.

Святары на радыё ладзяць катэхезы, рыхтуюць разважанні над Словам Божым і ўдзельнічаюць у перадачах, у тым ліку адказваючы на пытанні слухачоў.

**Паводле дырэктаркі радыё, калі “касцельныя структуры адухоўленыя, калі святары шмат працуюць, укладаюцца ў парафію і ў якіх жывая парафія, то свецкім там вельмі хораша”.**

Праўда, прызнае Яўгенія, ёсць парафіі, дзе “да святара не падысці, дык там часта і людзі нібыта “мёртвыя”, чэрствыя”.

“Таму і свецкія ініцыятывы там не асабліва патрэбныя. Нармальны, здаровы Касцёл, а ён ёсць у Беларусі, радуецца ініцыятыве свецкіх”, – адзначыла Яўгенія Найдовіч.

Пры гэтым яна падкрэсліла, што “калі ў свецкіх “шыла”, то яны ўсё зробяць – і хоры, і фільмы, і віктарыны, і пілігрымкі”.

“Самыя дарагія сэрцу моманты і прыклад добрых узаемаадносін Касцёла і свецкіх – гэта нашыя вандроўкі па Беларусі. Калі прыязджаеш у парафію і сустракаеш такі клопат і гасціннасць, што не выказаць словамі, – гэта сапраўдны прыклад айцоўскага клопату святароў пра сваю паству. Калі цябе, звычайнага чалавека, прымаюць як дарагога госця, калі цябе чакаюць і самыя цікавыя размовы, і смачны пачастунак, і маральная падтрымка, і адабрэнне, то натхняешся на шмат уперад, і хочацца рабіць яшчэ болей”, – падкрэсліла суразмоўца.

У якасці прыкладу рознага стаўлення да дзейнасці свецкіх яна прывяла сітуацыю, у якой не часта, але даводзілася бываць камандзе радыё.

“Калі ты прыязджаеш на парафію, і святар з амбоны кажа, што пасля Імшы “нейкая жанчына з Мінска хоча нешта распавесці і даць нейкія ўлёткі, і калі ёсць жаданне, то можна падысці, а калі не – не падыходзьце”, то ўсе парафіяне проста пройдуць паўз нас. Пасля такога мы, вядома, крыху паплачам, але ў нас ва ўсіх ёсць выразная ўпэўненасць, што мы робім годную справу, патрэбную і людзям, і нам самім. Бо самі мы без “Радыё Марыя” задыхнёмся”, – распавяла яна.

### “Радыё Марыя” вартае таго, каб у яго ўкладацца

Яўгенія Найдовіч распавяла таксама, што за шэсць гадоў існавання “Рыдыё Марыя” ўжо стала вядомым і біскупам, якія, на яе меркаванне, ставяцца да яго з павагай. Але адзначае: супрацоўнікам і валанцёрам было б прыемна, каб арцыпастырскай увагі і апекі было болей:

“Нам – а гэта натоўпы свецкіх людзей, якія штовечар пасля працы, і нават ноччу, вядуць перадачы, моляцца ў эфіры на ружанцы, прымаюць званкі – было б радасна, калі б на гэтыя натоўпы звярнулі ўвагу. Нам бы гэта дадало яшчэ больш энтузіязму”.

“Я ведаю, што “Радыё Марыя” вартае таго, каб у яго ўкладацца. І калі б у беларускім Касцёле раздавалі ўзнагароды, то мы б дакладна паспаборнічалі за медаль ці дыплом. Кожны камплімент для нас – гэта сапраўдная падтрымка. Калі б нас проста пахвалілі, гэта было б класна. А калі б нас яшчэ падтрымалі фінансава, то было б яшчэ і тэхнічнае развіццё, і больш якасны кантэнт для католікаў і ўсіх культурных людзей”, – падкрэсліла Яўгенія Найдовіч.




На думку суразмоўцы, ініцыятыва свецкіх патрэбная і самім святарам, і біскупам.

“Калі нас, свецкіх, не будзе, то для чаго гэта ўсё? Мне здаецца, што мы надаём ім сэнс. “Радыё Марыя” – тыя, хто яго робіць, і тыя, хто яго слухае, – гэта якраз і ёсць людзі, якія ад усёй душы цікавяцца тым, што робіцца ў Касцёле. Мы менавіта тая аўдыторыя, для якой пакліканыя святары і біскупы. Мы сапраўды цікавімся жыццём Касцёла, усім, што адбываецца, усімі рэкалекцыямі і падзеямі, і мы распавядзём пра іх так, што гэта будзе цікава іншым. То чаму гэта не можа быць цікава самому Касцёлу? Для таго, каб справа жыла, каб супольнасць жыла, трэба, каб там усё вярцелася. І мы спадзяёмся, што менавіта гэтаму спрыяем”, – сказала прадстаўніца радыё.

І нават калі кажуць, што “прыехала жанчына, нешта ад вас хоча – прайдзіце, калі ласка, міма”, то гэта не тое, што спыніць “Радыё Марыя” ад далейшай працы.

“Мы будзем працягваць так доўга, як гэта будзе магчыма, як гэта дазволіць Пан Бог”, – заключыла Яўгенія Найдовіч.

Але падкрэсліла: хоць ініцыятыва свецкіх на “Радыё Марыя” і так мае шырокую падтрымку сярод беларускага кліру, прадстаўнікі радыё згодныя, каб яе было больш.

***Мечыслаў Гапановіч***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Святлана Фалевіч** *(Камарова)*, **Яніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Аляксандра Кордас** *(Глыбокае)*, **Ганна Аліхвер** *(Камаі)*, **Ганна Гуйская** *(Камаі)*, **Ніна Дангель** *(Камаі)*, **Генавефа Дубіловіч** *(Камаі)*, **Крысціна Краміч** *(Камаі)*, **Ганна Казлоўская** *(Камаі)*, **Гітана Лебедзь** *(Камаі)*, **Яўгенія Нядзведская** *(Камаі)*, **Марыя Роліч** *(Камаі)*, **Яніна Сінкевіч** *(Камаі)*, **Яўгенія Хведзевіч** *(Камаі)*, **Алена Лявіцкая** *(Камаі)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Ірына Філановіч** *(Паставы)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ніна Гайдзель** *(Яя)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Сульвіна Кушняровіч** *(Сушчава)*, **Дана Варанько** *(Друя)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Марыя Сварцэвіч** *(Паставы)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*,**Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Віктар Муляронак** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Саўчанка** *(Глыбокае)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***




Дарагі дружа! Зусім хутка распачнецца Вялікі Пост. Час падрыхтоўкі сэрцаў да спаткання з Уваскрослым Хрыстом. Час, каб задумацца, як жа моцна палюбіў нас Пан Езус, што дабравольна зносіў пакуты і памёр на крыжы дзеля нашага Збаўлення.

Выконваючы заданні “Пазнавайкі”, ты зможаш лепш перажыць перыяд Вялікага Посту.

**1 ЗАДАННЕ**

Разгледзь малюнкі. Напішы, якія добрыя ўчынкі ты можаш зрабіць падчас Вялікага Посту.



**2 ЗАДАННЕ**

Разам з бацькамі прачытай урывак з Евангелля паводле Мацвея 4, 1-11. Правільна адказы на пытанні крыжаванкі і даведаешся, як называецца першы дзень Вялікага Посту.



1. Куды Дух вывеў Езуса Хрыста?
2. Колькі дзён Езус пасціўся?
3. Што рабіў д'ябал з Езусам?
4. Што прапанаваў д'ябал перамяніць у хлеб?
5. Хто служыў Езусу пасля таго, як д'ябал адышоў?
6. Устаў прапушчанае слова: «Д'ябал зноў узяў Яго на вельмі высокую гару і паказаў Яму ўсе валадарствы ............. і славу іх»
7. Устаў прапушчанае слова: «Пану Богу твайму будзеш ..... і Яму аднаму будзеш служыць»



**3 ЗАДАННЕ**

Калі запішаш па парадку словы фіялетавага колеру - даведаешся, што кажа святар падчас пасыпання галавы попелам.

Адказ запішы.

МАЛІЦЕСЯ АБО ЧЫТАЙЦЕ
ЦІ КАЙЦЕСЯ НАПЭЎНА НЕ
СУМУЙЦЕ І ВЕРЦЕ СЯБРУЙЦЕ
І НЕ БУДЗЬЦЕ ВАЛАДАРСТВА
Ў ШЧАСЦЕ ЛЮБОЎ ЕВАНГЕЛЛЕ

Адказ: ________________________________________
________________________________________

**4 ЗАДАННЕ**

Разгадай рэбус і даведайся тры ўмовы добрага перажывання Вялікага Посту.

Запішы першую літару кожнага слова.




Адказы запішы тут:

1.________________________
2.________________________
3.________________________

Мастачка: Вольга Будкіна; ідэя: Вікторыя Філіпенка



# 80 год Росіцкай трагедыі

**Зімовая лютаўская раніца. На гадзінніку 4.30, цёмнае сіняе неба без ніякіх прыкмет світанку. У рэдкіх вокнах шматпавярховікаў гараць святло. Спіць прырода, спяць людзі. Паўсюль пануе глыбокая цішыня і супакой.**

■ **Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Напэўна такая ж цішыня панавала і восемдзесят год таму на ўскрайку Беларусі. Толькі раптам яе разарвалі крыкі і енкі людзей: жанчын, дзяцей, старых.

Гэта распачалася страшная карная экспедыцыя. "Зімовае чараўніцтва" – цынічная назва акцыі, напраўленай супраць партызанаў. Мэта яе была стварыць 40-кіламетровую зону без людзей і населеных пунктаў. Каб дасягнуць сваёй мэты, карнікі спалілі больш за 300 вёсак на тэрыторыі Беларусі.

Кагосьці з людзей забівалі адразу на месцы, а большасць зганялі ў Росіцкі касцёл. Там разгубленых, галосячых, напужаных людзей сустракалі айцы марыяне — Антоній Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Святары былі адзінымі з прысутных людзей, якім дазвалялі выходзіць з храма. Таму яны дапамагалі як маглі: прыносілі ежу для дзяцей, распальвалі вогнішча, вялі перамовы з фашыстамі.

Але галоўнае, што яны маглі даць людзям, была бясцэнная духоўная падтрымка: суцяшэнне ў роспачы, супольная малітва, удзяленне сакрамантаў, падрыхтоўка да сустрэчы з Панам у Нябесным Валадарстве.

Цягам некалькіх дзён людзей у храме станавілася ўсё менш – адбывалася нялюдская сарціроўка. Адных карнікі пакідалі, каб адвезці на працу ў Германію, а другіх каб спаліць зажыва. Айцы Юры і Антоній маглі ўратаваць сваё жыццё, але засталіся з паствай, якую даверыў ім Хрыстос. Засталіся да канца, да смерці ў палаючым агні.

Сюды, у маленькую вёску на ўскрайку Беларусі, штогод прыязджаюць пілігрымы, каб ушанаваць памяць загінулых, каб разважаць над подзвігам росіцкіх святароў, каб маліцца і праз заступніцтва блаславёных Юрыя і Антонія прасіць у Пана дару мудрасці, мужнасці і нястомнай веры.

18 лютага адбыліся чарговыя ўрачыстасці ў Росіцы. Зноў вялізны касцёл напоўніўся людзьмі. Гэта святары, кансэкраваныя асобы і вернікі са шматлікіх куточкаў Беларусі, якія пераадолелі, часам, не адну сотню кіламетраў.

Урачыстасці распачаліся выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту і малітвай на ружанцы. Кленчачы на халоднай падлозе, яднаючыся ў думках з тымі, хто таксама маліўся тут і 80 год таму, прысутныя разважалі над святым Пісаннем і аддавалі Богу ў малітве найбольш цяжкія моманты свайго жыцця.

Урачыстую святую Імшу ўзначаліў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч.

Падчас гаміліі ён засяродзіўся над словамі з Евангелля паводле Мацвея (10, 28) "Не бойцеся тых, хто забівае цела, душы ж не можа забіць".

"Сёння мы як штогод збіраемся на гэтым месцы, каб маліцца за тых, хто загінуў. Але і ўглядацца ў прыклад мужнасці і адвагі. Бо менавіта такія трагічныя моманты агаляюць тое, што ёсць у чалавека. І не толькі сведчаць пра злосць, нянавісць і агіду людской сапсаванай натуры, але і паказваюць прыклады гераізму і вернасці аднойчы дадзенаму слову. Вернасці свайму пакліканню", – зазначыў біскуп.

Напрыканцы ардынарый пажадаў, каб дарога ў Росіцу ніколі не была забытая, каб храм заўсёды прыцягваў сваёй прыгажосцю, а блаславёныя Юры і Антоній выпрошвалі для кожнага прысутнага так патрэбны супакой. Супакой у нашай краіне, у нашых сем'ях, супакой у нашых сэрцах.

Як і восемдзесят год таму, сёння Росіцкай парафіяй апякуюцца айцы марыяне. Гэта святары, для якіх блаславёныя айцы назаўжды застануцца прыкладам ахвярнага служэння. Прысутных вітаў кусташ санктуарыя айцец Аляксандр Жарнасек. Ён запрасіў прыязджаць у Росіцу і надалей, удзельнічаць у набажэнствах і пілігрымках, а таксама захапляцца прыгажосцю гэтага цудоўнага месца.

Пасля святой Імшы ўсе накіраваліся на пляц мучаніцтва. Месца страшнай трагедыі, але разам з тым – вялікай Боскай Хвалы.

Пасля кароткай малітвы кожны мог укленчыць і ўшанаваць Хрыстовы Крыж – знак збаўлення для ўсіх хрысціянаў. Месца, дзе загінула паўтары тысячы людзей, каб кожны жывы чалавек цаніў кожны дзень жыцця і прысвячаў яго Богу.



# Каляндар на сакавік

**4** сакавіка – успамін святога Казіміра.

**7** сакавіка – успамін Св. Пэрпэтуі і Фэліцыты, мучаніц.

**8** сакавіка – успамін Св. Яна Божага, законніка.

**9** сакавіка – успамін Св. Францішкі Рымскай, законніцы.

**13** сакавіка – гадавіна выбару Папы Францішка на Святы Пасад.

**17** сакавіка – успамін Святога Патрыка, біскупа.

**18** сакавіка – успамін Св. Кірыла Ерузалемскага, біскупа і доктара Касцёла.

**20** сакавіка – урачыстасць святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.

**23** сакавіка – успамін Св. Турыбія Мангравэха, біскупа

**25** сакавіка - урачыстасць Звеставання Пана.

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння;

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – А; 4 – Б; 5 – Б; 6 – В; 7 – А; 8 – А; 9 – Б; 10 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 858

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 20.02.2023 г. у 8.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь